

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

**ПЯТНІЦА, 18 жніўня 1989 г. № 33 (3495) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.**


## «ЛіМ»-90

**«Зараз ідзе падпіска на перыядычныя выданні на наступны год, і мне хочацца, каб слова «ЛіМа» дайшло да як мага большай часткі чытачоў у рэспубліцы і за яе межамі», — піша нам А. Я. Нікалаеў са Светлагорска Гомельскай вобласці.**

**«Да заканчэння падпіснай кампаніі застаецца менш за два месяцы, — нагадвае ён і працягвае. — Нельга губляць ні хвіліны! Мы з жонкай час не губляем. Дзякуючы нашай «прапагандзе і агітацыі» сярод нашых сяброў і знаёмых, колькасць чытачоў «ЛіМа» ўжо крыху павялічылася».**

**Нам застаецца падзякаваць аўтару пісьма і разам з ім яшчэ раз звярнуцца да ўсіх: падпіска на «ЛіМ»-90 працягваецца да 1-га кастрычніка. Спяшайцеся!**

## НА НОВАЙ АСНОВЕ

**Апублікаваны праект платформы КПСС «Нацыянальная палітыка партыі ў сучасных умовах», які будзе абмеркаваны на Пленуме ЦК па міжнацыянальных адносінах.**

Нацыянальнае пытанне ў Савецкім Саюзе, як адзначаецца ў дакуменце, набыло ў апошні час выключную вастрыню. Партыя ўсведамляе, што вырашэнне ўзнікшых у сувязі з гэтым праблем мае велізарнае значэнне для лёсу перабудовы і будучыні нашай краіны. Такое вырашэнне можа і павінна быць знойдзена толькі ў ходзе рэвалюцыйнага абнаўлення савецкага грамадства.

**Гарманізацыя міжнацыянальных адносін на новай аснове — адна з вышэйшых мэт нацыянальнай палітыкі партыі.**

Пры гэтым на першы план выходзяць наступныя напрамкі нацыянальнай палітыкі:

— пераўтварэнні ў савецкай федэрацыі, напаўненне яе рэальным палітычным і эканамічным зместам;

— расшырэнне правоў і магчымасцей усіх форм і відаў нацыянальнай аўтаноміі;

— забеспячэнне роўных правоў кожнаму народу, задавальненне спецыфічных інтарэсаў кожнай нацыянальнасці;

— стварэнне ўмоў для свабоднага развіцця нацыянальных культур і моў;

— умацаванне гарантый, якія выключаюць ушчамленне правоў грамадзян па нацыянальнай прыкмеце;

— абнаўленне ўсёй ідэйна-палітычнай і выхаваўчай работы ў сферы нацыянальных адносін.

Асобны раздзел праекта платформы прысвечаны нацыянальным культурам і мовам. У ім адзначаецца, што на якасна новы ўзровень, які адпавядае сучаснай стадыі развіцця сацыялістычнага грамадства, павінна быць узнята **палітыка ў галіне культуры**, дзе спалучэнне нацыянальных і інтэрнацыянальных аспектаў набывае асаблівае значэнне.

КПСС зыходзіць з прызнання самабытнасці нацыянальных культур, іх унікальнай каштоўнасці. Захаванне такой самабытнасці павінна забяспечвацца прававымі мерамі, якія выключалі б усялякую дыскрымінацыю і непавагу.

Рашуча асуджаючы любыя формы ўшчамлення нацыянальных культур, партыя бачыць сваю задачу ў забеспячэнні свабоднага развіцця духоўнага жыцця ўсіх народаў СССР. Формы гэтага развіцця суверэнна вызначаюцца кожнай з іх без рэгламентацый і абмежаванняў. Гэтак жа неабходна ствараць умовы для развіцця інтэрнацыяналісцкіх працэсаў узаемадзеяння культур у маштабах усёй краіны, роўна як і ўдзелу ў культурным жыцці іншых краін, усяго чалавецтва.

Асаблівае значэнне набывае далейшае свабоднае развіццё моў народаў СССР. Пытанне аб мэтазгоднасці прызнання дзяржаўнай мовы нацыянальнасці, якая дала назву саюзнай або аўтаномнай рэспубліцы, — кампетэнцыя саміх рэспублік. Статус дзяржаўнай мовы азначае расшырэнне яе грамадскіх і культурных функцый, вырашэнне неабходных для гэтага матэрыяльна-тэхнічных, кадравых, педагагічных або іншых пытанняў, заахвочванне і дапамогу ў вывучэнні мясцовай мовы прадстаўнікамі іншай нацыянальнасці.

Пры гэтым павінны няўхільна захоўвацца раўнапраўе моў і свабодны выбар мовы навучання.

Нацыянальная палітыка — гэта пастаянная творчасць, уменне своечасова адклікацца на праблемы, якія ўзнікаюць у сферы міжнацыянальных адносін, знаходзіць эфектыўныя механізмы вырашэння канфліктных сітуацый, улічваць рэальную дыялектыку жыццёвых працэсаў.

## КАМІТЭТ ПА БАРАЦЬБЕ СА ЗЛАЧЫННАСЦЮ

**У адпаведнасці з пастановай Вярхоўнага Савета СССР ад 4 жніўня 1989 года «Аб рашучым узмацненні барацьбы са злачыннасцю» Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларускай ССР пастанавіў утварыць Часовы камітэт па барацьбе са злачыннасцю ў Беларускай ССР.**

У склад камітэта ўвайшлі: **М. І. ДЗЕМЯНЦЕЙ**, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР (старшыня камітэта); **Г. С. ТАРНАЎСКІ**, пракурор БССР; **В. А. ПІСКАРОЎ**, міністр унутраных спраў БССР; **В. Г. БАЛУЕЎ**, старшыня Камітэта дзяржаўнай бяспекі БССР; **У. С. КАРАВАЙ**, старшыня Вярхоўнага суда БССР; **У. М. ЛОЎЧЫ**, намеснік міністра юстыцыі БССР; **А. Я. АНДРЭЕЎ**, народны дэпутат СССР, старшыня савета Беларускай рэспубліканскай арганізацыі ветэранаў вайны і працы; **У. І. ГАНЧАРЫК**, народны дэпутат СССР, старшыня Беларускага рэспубліканскага савета прафсаюзаў; **Л. Л. ДЗЮСАЎ**, народны дэпутат СССР, токар-расточнік вытворчага аб'яднання «Мінскі маторны завод».






13 жніўня распачаўся другі Мінскі скульптурны пленэр. Афіцыйнае адкрыццё адбылося ў купалаўскім парку, які часова выконвае функцыі «сада скульптуры». Тут экспануюцца творы першага пленэра.

Да прысутных звярнуўся старшыня праўлення Саюза мастакоў Беларусі У. Стальмашонак. Ён гаварыў аб праблемах эстэтызацыі гарадскога асяроддзя, пра тое, што фактычна не выконваецца вядомая ўрадавая пастанова аб абавязковым выдаткаванні не меней як двух працэнтаў ад агульнага кошту будаўнічых аб'ектаў на іх мастацкае аздабленне. Вельмі важна тое, адзначыў ён, што ініцыятыву сёння бяруць у рукі самі мастакі, самі выходзяць на кантакт з кіраўніцтвам горада і рэспублікі. Сведчанне таму і першы пленэр, плён якога відавочны, і другі, які толькі распачаўся.

Удзельнікаў пленэра вітаў прадстаўнік аддзела культуры гарвыканкома У. Муліца і загадчык ідэалагічнага аддзела гаркома КПБ Н. Іванова. Потым удзельнікі пленэра «прыкладаліся да каменя» — кожны адбіў сабе маленькую частку ад вялікага кавалка мармуру на ўспамін аб гэтым дні.

І апошняе, чым быў адзначаны дзень адкрыцця пленэру, — гэта наведанне Маскоўскіх могілак, дзе пахаваны вядомыя беларускія скульптары А. Глебаў, А. Бембель, А. Анікейчык. Маладыя скульптары ўсклалі кветкі да іх магіл.

Леташні пленэр сабраў толькі мінскіх скульптараў. Сёлета, акрамя гаспадароў, у ім бяруць удзел скульптары з Гродна і Магілёва, а таксама з Грузіі і РСФСР. «ЛіМ» праінфармуе сваіх чытачоў аб рабоце і выніках пленэра.

Наш кар.
Фота Ул. КРУКА.

**Нядаўна апублікаваныя ў друку падрыхтаваныя Дзяржпланам і ў асноўным ухваленыя Саветам Міністраў рэспублікі прапановы «Аб перабудове кіраўніцтва эканомікай і сацыяльнай сферай у Беларускай ССР на прынцыпах самакіравання і самафінансавання» вымагаюць глыбокага роздуму і асэнсавання. Што трэба зрабіць, каб рэспубліка мела магчымасць ажыццяўляць свой суверэнітэт ва ўсіх сферах эканомікі — вось пытанне з пытанняў.**

**Адна з самых вялікіх праблем, якія патрабуюць неадкладнага вырашэння, — насычэнне рэспубліканскага рынку дастатковай колькасцю прадуктаў харчавання. Як вынікае з праекта Асноўных палажэнняў, у сферу рэспубліканскага гаспадарання ўключаны і аграпрамысловы комплекс. Як цяпер ён будзе дзейнічаць? Ці зможа рэзка інтэнсіфікаваць сельскагаспадарчую вытворчасць? Гэтага не адбудзецца, пакуль зямлі не будзе вернуты сапраўдны гаспадар — селянін, максімальна зацікаўлены ў выніках сваёй працы. Адзін са шляхоў у гэтым кірунку — арэндны падрад, які, на жаль, пакуль што не можа набраць сілу. Вартая пільнай увагі і такая форма гаспадарання на зямлі, як фермерства, якое зарэкамендавала сябе ва ўсім свеце. Але ў фермера павінна быць зямля, аддадзеная яму ў арэнду на многія дзесяткі гадоў, калі не назаўсёды, каб на ёй маглі гаспадарыць і яго нашчадкі. Тут многае ўпіраецца ў адсутнасць закона аб зямлі. Калі ён будзе? Ці паспрыяе яго з'яўленню пераход рэспублікі на гаспадарчы разлік?**

**Пра гэтыя праблемы разважаюць сёння на старонках «ЛіМа» пісьменніца М. Філіповіч і эканаміст К. Ярмоленка.**

**Марыя ФІЛІПОВІЧ**

# ПАЧАТАК ЁСЦЬ — А ДАЛЕЙ?..

яго), нічога вартага не прывозяць.

Тамара Мікалаеўна, пэўна, расказала б яшчэ больш пра сваё жыццё-быццё, калі б не рэгламент. Жанчына вярнулася на сваё месца. А я ў тую ж хвіліну цвёрда вырашыла, што паеду ў саўгас «Юбілейны», які цалкам, усёй гаспадаркай, перайшоў на арэнду, і пагляджу, як там жывуць людзі.

І вось я ў Акунёўцы, цэнтры саўгаса. Збіраючыся ў дарогу, успомніла параду Тамары Мікалаеўны: «Аўтобус ходзіць да нас тры разы на тыдзень, то вы ўжо прымяркуйце свой прыезд на гэтыя дні». Пакуль гадзіну, не менш, трэслася ў халодным аўтобусе, прыгадала і іншае: па кожную дробязь, па ўсё трэба ехаць у горад. У горад, як я заўважыла, нават па хлеб ездзяць: у аўтобусе было нямала старэнькіх бабулек з перакінутымі цераз плячо клункамі з хлебам. На непазначаных прыпынках, часцей за ўсё недзе сярод поля, яны адна за адной паціху пакідалі аўтобус і па слаба вытаптанай сцяжынцы кіравалі ў бок сваёй вёсачкі.

— А бліжэй у вас хіба няма дзе купіць хлеба? — пацікавілася я.

— Чаму ж? У вялікіх вёсках ёсць магазіны. Але туды ісці трэба сама мала кіламетры са тры. А тут аўтобус бліжэй падвязе. Ды і колькі таго хлеба ў вёсцы дадуць у адны рукі? А ў горадзе я і раз, і два стану ў чаргу, хто мяне там прыкмеціць... Затое запас на цэлы тыдзень...

Цэнтр саўгаса зрабіў на мяне дзіўнае ўражанне. Я шмат пабачыла пакінутых, занядбаных вёсачак, якія ціха дажывалі свой век убаку ад агульнага прагрэсу, цень якога хоць і слаба, а ўсё ж пазначыў многія цэнтральныя сядзібы гаспадарак. Там і дарогі шасейныя, і электрычнасць, і палацы культуры такія, што ў іх заблудзіцца можна, і стадыёны, і дамы быту... Праўда, пра Акунёўку не скажаш, што гэта пакінутая вёска. Усё ж — цэнтр саўгаса. І цагляных дамоў нямала. Падобныя адзін на адзін — шэрыя і бязлікія, яны, хоць і *стаялі побач, не стваралі ўражання* вуліцы, выглядалі голымі і няўтульнымі. Больш звыкла і натуральна выглядала старая частка вёскі з яе палісаднікамі, садкамі, агародчыкамі, абнесенымі штыкетнікам. Праўда, калі прыгледзецца, новых дамоў няшмат, усё старыя, якія дажываюць свой век разам з гаспадарамі. Гэта — вёска ўчарашняга дня. А тыя шэрыя цагляныя пабудовы з казарменным аблічам лічацца вёскай сённяшняй...

Шыльда на дзвярах аднаго з двухпавярховых будынкаў сведчыла, што тут знаходзіцца кантора саўгаса «Юбілейны».

— Пра забудову нашай вёскі і гаварыць няма чаго, — выказаў сваю думку дырэктар саўгаса Міхаіл Мікалаевіч Хортаў. — Ёсць сем'і ў саўгасе, што жывуць яшчэ ў бараках, 30 кватэр трэба мець тэрмінова. Хацелася б, канечне, мець *і прыгожыя,* добраўпарадкаваныя дамы, але на сённяшні дзень абы займець дах над галавой. Пры былым дырэктары ў апошнія гады ніякага будаўніцтва наогул не вялося. І я цяпер не ведаю, за што брацца. Фермы ўсе як адна ў аварыйным стане, слаба механізаваныя. У нас нават майстэрні для рамонту тэхнікі няма, не гаворачы ўжо пра Дом механізатара, дзе б хлопцам было дзе прыткнуцца, адпачыць хвілінку, душ прыняць... Дарэчы, да сёлетняга года ў саўгасе не было лазні. Работа ў сельскага працаўніка, як самі разумееце, пыльная, каб не сказаць больш. А абмыцца, пераапрануцца няма як. Вось і цягнеш на сабе дадому ўсю гразь. А дома што?..

Міхаіл Мікалаевіч гаварыў з горыччу і болем. Два гады таму ўзначаліў ён саўгас, пранікся клопатам і праблемамі вяскоўцаў, і па маладосці і няўрымслівасці характару хацелася яму ўсё як мага хутчэй перайначыць да лепшага. *Пачаў з таго, што* ўсёй гаспадаркай перайшлі на ўнутрыгаспадарчы разлік, заснаваны на прынцыпах арэнды. У жывёлагадоўлі і ў раслінаводстве былі створаны некалькі самастойных гаспадарча-разліковых калектываў, узаемаадносіны паміж якімі ўстанавіліся па прынцыпе куплі-продажу. Галоўнае ж у гэтай сістэме тое, што гаспадарка здала ў арэнду гэтым калектывам зямлю, тэхніку, памяшканні і іншыя сродкі вытворчасці. Людзі пачалі працаваць у новых эканамічных умовах, у іх з'явілася зацікаўленасць у канчатковых выніках сваёй працы, і гэта не магло не адбіцца на яе прадукцыйнасці. У саўгасе павысілася ўраджайнасць збожжавых, да 36 цэнтнераў з га, пачаў зніжацца сабекошт мяса-малочнай прадукцыі.

Але звязваць перабудову ў сельскай гаспадарцы толькі з абсалютнымі паказчыкамі — нельга. У цэнтры гэтага працэсу стаіць чалавек, і таму важна ўсё, што мае да яго дачыненне: і тое, у якіх умовах даводзіцца яму працаваць, і як наладжаны ягоны быт, як гэты чалавек адпачывае, пра што марыць, да чаго імкнецца... Толькі тады, калі мы зразумеем усе парыванні вясковага чалавека, працаўніка, прыслухаемся да яго патрэб, зробім усё, каб замацаваўся ён на зямлі, на якой працуе, толькі тады мы будзем мець права штосьці патрабаваць ад яго ўзамен.

Я ішла да Тамары Мікалаеўны Якас, спадзеючыся атрымаць ад яе адказы на многія пытанні, што хвалявалі мяне.

Дом Тамары Мікалаеўны і Генадзя Вінцавіча Якасаў у самым канцы вуліцы «ўчарашняе вёскі». Ён як натуральны працяг яе, хоць і сучасны, *вялікі, прасторны,* са светлымі вокнамі — падарунак саўгаса мнагадзетнай сям'і. Пра такі дом Якасы марылі ўсё жыццё. Да гэтага жылі і ў кватэры двухпавярховага саўгаснага дома, дзе над імі, на другім паверсе, размяшчаўся саўгасны інтэрнат, і ў невялікай хаціне, грошы на якую частку сабралі самі, а частку пазычылі ў саўгасе. Калі самаму апошняму, дзесятаму дзіцяці споўнілася два гады, пераехалі ў новы дом.

Я з цікавасцю пазірала на *бялявыя галоўкі, што* пазвешваліся з высокай пабеленай печы, і мне рупіла хутчэй папытацца ў жанчыны, як гэта ёй удаецца сумяшчаць працу на ферме і клопат аб такой вялікай сям'і.

— А так і ўдаецца.. Дзесяць нарадзіла, а ні разу не дазволіла сабе пайсці ў дэкрэтны адпачынак. Усё грошай хацелася больш зарабіць, усё нястача... Групу сваіх кароў нікому не перадавала. Даіла да апошняга, а з роддома вярталася — і на наступны дзень *зноў была на* ферме... А дзеці... Першанькая, Лена, падрасла, была мне нянькай... Большыя глядзелі меншых, у дзіцячы садок не хадзілі... Так і пагадаваліся...

Тамара Мікалаеўна расказвае мне пра свой нялёгкі жаночы лёс, я слухаю яе і дзіўлюся той духоўнай сіле, якая дапамагае не толькі выстаяць ва ўсіх жыццёвых нягодах, але і да самага скону вызначацца дабрынёй, шчырасцю і адкрытасцю.

На ферме Тамара Мікалаеўна з 15 гадоў. Маці працавала даяркай, і яна ўцягнулася ў гэтую работу. Дзяўчом узяла самастойна групу з 18 кароў. Даілі тады ўручную. Апараты даільныя ўстанавілі на ферме толькі ў 1972 годзе. Ды ўсё рабілі рукамі — рэзалі каровам буракі, раздавалі кармы, паілі, гной вычышчалі і г. д.

— *Халадзільнікаў* на ферме не было, і мы ад вадакачкі цягалі лёд, каб астудзіць малако. Не на калёсах вазілі, насілі на плячах, паклаўшы ў посцілку таго лёду як падняць...

Замужжа не аблегчыла жыццё Тамары Мікалаўены. Муж, Генадзь Вінцавіч Якас, літовец, чалавек добры і працавіты. Шкадаваў жонку, але мала чым мог дапамагчы ёй. Працаваў у саўгасе трактарыстам і з цямна да цямна не стыкаўся дома.

Сям'я павялічвалася, усё больш складана рабілася жанчыне і дзяцей гадаваць, і з хатняй гаспадаркай упраўляцца, і на ферме працаваць. А як нарадзілася восьмае дзіця, Генадзь Вінцавіч прыняў рашэнне кінуць сваю механізатарскую справу і пайсці разам з жонкай працаваць на ферму.

Тамара Мікалаеўна не проста працавала ў саўгасе, яна працавала самааддана. Надоі ў яе групы кароў з кожным годам раслі: у 1985 годзе — 3800, у 1986—87 — 4000 літраў. Гэта значна больш за сярэднія паказчыкі па раёне. За ёй трывала замацавалася слава перадавой даяркі, заробак павялічваўся з кожным годам... І вось — арэнда... Справа новая, у саўгасе нікім яшчэ да таго неправераная, і я чакала, што Якасы раскажуць мне пра свае ваганні, сумненні і нават звычайны, добра зразумелы кожнаму, хто бярэцца за новую справу, *страх.*

— А чаго нам было баяцца? — з годнасцю адказаў Генадзь Вінцавіч. — Гаспадарчага разліку баяцца толькі гультаі, якія прывыклі атрымліваць незаробленыя грошы. А мы адно ведаем: будзеш працаваць сумленна — нешта заробіш...

Усё жыццё Тамара Мікалаеўна і Генадзь Вінцавіч верылі ў сумленную працу, верылі і тады, калі прэстыж яе быў падарваны і многія людзі спавядалі іншую веру — *веру ў лёгкую нажыву.* І таму, можа, новыя метады гаспадарання на зямлі перш за ўсё знаходзяць падтрымку ў людзей, якія ніколі не гублялі веру ў высокае прызначэнне сваёй працы.

Калі Тамара Мікалаўена і Генадзь Вінцавіч бралі ў арэнду ферму, яны ведалі, што ім давядзецца нялёгка. Кароў ім прывезлі з суседняй брыгады. Як «добра» іх там даглядалі, гаворыць такі факт: з 75-ці прывезеных кароў 28 давялося адправіць назад. Аказалася — няцельныя.

Узялі іншых кароў. Малако ў каровы, кажуць, на языку. А таму не трэба быць вялікім мудрацом, каб разумець, што павялічыць надоі можна толькі пры добрых кармах. Кармы саўгасныя, купленыя ў раслінаводчых гаспадарча-разліковых калектываў. Браць трэба тое, што яны нарыхтавалі. Тыя ж таксама на арэндзе, дбаюць аб сваёй выгадзе і зацікаўлены, каб прадаць кармы выгадна, мець прыбытак. А таму Якасы заўсёды памятаюць, што за кожны лішні бурак, скормлены карове, трэба плаціць са сваёй кішэні. Як жа зрабіць, каб і малака было больш і сабекошт яго, адпаведна, паніжаць? Зусім *іншая* справа, калі ферма ў арэнду бярэцца разам з зямлёй і арандатар сам вырашае, што яму выгадна вырасціць на гэтай зямлі, а калі якія кармы і трэба купіць, дык дзесяць разоў узважыць, у каго яму купіць іх больш выгадна. А ў дадзеным выпадку, як кажуць, выбіраць не давялося.

**(Працяг на стар. 4).**

# СЯЛЯНСКАЕ ПРАВА ВЫБАРУ

**між сабой парадак забудовы сялянскіх двароў, заведзены тут яшчэ з мінулых стагоддзяў. Думалася: няўжо на самай справе ва ўмовах, калі за кожнай курыцай ганяўся падліковец з райфінаддзела, а з высокіх трыбун заяўлялася аб «поўнай і канчатковай» перамозе калгаснага ладу ў вёсцы, — знайшоўся «аднаасобнік», *які не зламаўся, не махнуў* на ўсё рукой, выстаяў?**

**Нарэшце, прыехалі. Перад намі паўстала, я б сказаў, самая што ні ёсць класічная фермерская гаспадарка. Прасторны светлы дом на пагорку, алея са старых густых дрэў, сад, сажалка, дагледжаная жывёла, што пасвілася непадалёк. Праз дарогу, насупраць дома, стаялі хлявы, прасторны свіран. Ва ўсім і ўсюды адчуваўся ідэальны парадак і чысціня.**

**Знаёмімся з гаспадаром. Станіслаў Аляксандравіч Лушко. Прыемны, ветлівы чалавек. Не зусім гаваркі, але шчыры. Расказвае, што нарадзіўся ў 1929 годзе, усё жыццё прайшло тут, на хутары. Хутар быў куплены бацькам у 1924 годзе. Бацька ездзіў у Амерыку, *там працаваў дзесяць гадоў* на шахтах. Зарабіўшы грошай, вярнуўся, выкупіў частку панскага фальварка. Тады ў гаспадарцы было дваццаць пяць гектараў зямлі. Цяпер Станіслаў Аляксандравіч трымае некалькі кароў, дванаццаць авечак, восем свіней, сотню птушкі, каня. Было і больш, ды ўжо здароўе, кажа, не тое. Выгадаваў пяць дзяцей, усе атрымалі добрую адукацыю. Два сыны побач, працуюць у суседніх калгасах, часам памагаюць.**

**Гаспадар хутара нетаропка вёў свой аповяд:**

**— Бачу, што ўсё большае ў нас людзей, якія сярод белага дня сядзяць у вёсцы на лаўцы, семкі лускаюць, у карты гуляюць, не хочуць працаваць. А навошта? Цяпер жа можна *пражыць і не працуючы.* Навошта рваць жылы, калі толькі за прыход на працу плацяць сотню рублёў? А я так не прывучаны. Што хачу ад дзяржавы? Каб дала рабіць тым, хто хоча рабіць. І каб жылі яны вольна, без страху. А людзі знойдуцца. Спачатку адзін, другі, а потым, глядзіш, і трэці, чацвёрты, пяты...**

**Ужо вяртаючыся з хутара, думаў: колькі ў нас у сталіцах «руплівцаў» аб інтарэсах беларускага сялянства! Які енк яны ўзнімаюць толькі пры адным упамінанні аб адраджэнні хутароў! «Хутаранцаў» яны не любяць, ганьбуюць іх. А ганьбаваць трэба тых, у каго шуміць бур'ян на асабістых сотках. Хто ходзіць міма паваленага плоту каля хаты і вухам не вядзе. Хто агітуе сваіх дзяцей з'язджаць назаўсёды ў горад.**

**За С. Лушко не трэба турбавацца. Ён сам адрамантаваў дарогу да хутара, пабудаваў дом, у якім жывецца вольна і ўтульна. У яго гараж і машына. Яго не палохае, а радуе *думка аб тым, што дзеці зас*тануцца ў бацькоўскім доме.**

**А вось што датычыць прававога боку справы, то тут на пятым годзе перабудовы пара б нашаму хутараніну памагчы вызначыцца. Бо існуе гаспадарка С. Лушко толькі «дэфакта». Юрыдычна ж яна па-за законам. У хутараніна няма ні акта на карыстанне зямлёй, ні тым больш рахунку ў банку. Яму ніхто не прадасць тэхніку і ўгнаенні. У любы час яму могуць абрэзаць агарод пад вокны. Ён існуе дзякуючы добрай волі кіраўніка мясцовага калгаса.**

**На беларускіх хутарах яшчэ цепліцца жыццё. Задумаемся: толькі ў адным Іўеўскім раёне хутароў больш за тысячу.**

**Землякі! Навошта нам пераконваць адзін аднаго, як мы гэта робім зараз, што ў нас няма жадаючых гаспадарыць самастойна! Навошта мы зноў вырашаем за селяніна яго лёс? Няхай ён усё рашае сам. Давайце дадзім яму права выбару. А яго, гэтага права, пакуль якраз і няма. У селяніна няма права выйсці з калгаса, саўгаса з зямлёй. У рэспубліцы няма закона аб працоўнай сялянскай гаспадарцы. І да таго часу, пакуль ён не з'явіцца, бяспраўе селяніна — рэальная рэч.**

**К. ЯРМОЛЕНКА,**
**супрацоўнік НДІ**
**эканамічных праблем**
**Дзяржаграпрома БССР.**
г. Мінск.

# Патрабуецца беларусазнаўства

А ПОШНІМ часам набыла папулярнасць формула: «Няма мовы—няма народа». Формула зусім правільная, і прыемна, што, нарэшце-такі, усё больш увагі звяртаецца на захаванне і развіццё моў усіх народаў, няхай нават і малалікіх (іменна «малалікіх», а не «малых», як было падкрэслена на З'ездзе народных дэпутатаў СССР). Але калі двайное адмаўленне, што змяшчаецца ў гэтай формуле, мы паспрабуем замяніць на сцвярджэнне: «Ёсць мова — ёсць народ», то гэта формула ўжо не будзе правільнай. Мы ведаем шмат мёртвых моў, якія існуюць да гэтага часу — старажытнагрэчаская, латынь і г. д., а народы, якія некалі стварылі на гэтых мовах багатыя духоўныя скарбы, зніклі з твару зямлі. Значыць, народ — гэта не толькі мова, гэта нешта большае. Мы не будзем тут звяртацца да пытання тэрміналогіі: што лічыць народам, што лічыць нацыяй і г. д. Не сакрэт, што звычнае для нас вызначэнне нацыі, дадзенае «буйнейшым спецыялістам» у нацыянальным пытанні І. В. Сталіным, мае патрэбу ў пераглядзе. І гэта ўжо робіцца ў этнаграфічнай літаратуры. Але як бы мы ні называлі этнічнае супольніцтва — «народ», «нацыя», «племя» ці яшчэ якнебудзь, — у любым выпадку яно будзе мець параметры колькасці насельніцтва і тэрыторыі рассялення. На гэтых пытаннях адносна да беларускага народа мы і хацелі б коратка спыніцца.

**Можа ўзнікнуць уражанне, што мы заклікаем займацца не моўнымі праблемамі, а толькі праблемамі колькасці і рассялення беларускага народа. Не, мы хочам звярнуць увагу на неабходнасць яго комплекснага ўсебаковага вывучэння. Апошнім часам у нашай краіне з'яўляецца даволі шмат работ, прысвечаных пытанням дынамікі колькасці і рассялення розных народаў. Ёсць такія работы аб рускім этнасе, аб украінскім, усё больш і больш работ прысвячаецца лёсу малалікіх народаў Поўначы, народаў Паволжа і іншых. Але чамусьці да гэтага часу няма такіх работ, прысвечаных беларускаму народу. Дагэтуль, калі гаворка заходзіць аб колькасці і рассяленні беларусаў, часцей за ўсё ўспамінаюць работы Я. Ф. Карскага, што выйшлі ў пачатку стагоддзя. Больш позніх работ па гэтым пытанні практычна няма.**

**Маюць патрэбу ў самым старанным навуковым вывучэнні пытанні этнічнай самасвядомасці беларускага народа. Пакуль жа яшчэ часта блытаюць такія паняцці, як «этнічная, нацыянальная самасвядомасць» і «патрыятычныя пачуцці». Напрыклад, С. Курганскі ў артыкуле «Паўпраўда — не праўда» («Советская Белоруссия» ад 7 чэрвеня 1989 года) спрабуе абвергнуць выказаны вядомым беларускім вучоным і пісьменнікам А. Мальдзісам тэзіс аб нізкай этнічнай самасвядомасці беларускага народа. І ў якасці абвяржэння ён прыводзіць яркія прыклады гераічнай барацьбы беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Адбываецца падмена паняцця «нацыянальная самасвядомасць» паняццем «патрыятызм». Ніхто не адмаўляе найвышэйшага пачуцця патрыятызму ў беларускага народа, ніхто не адмаўляе яго найвялікшага гераізму ў барацьбе за свабоду сваёй Радзімы. Але факт застаецца фактам — беларусы сёння страчваюць свае нацыянальныя асаблівасці, падвяргаюцца асіміляцыі.**

Лічыцца, што асноўнымі цэнтрамі асіміляцыі з'яўляюцца гарады: тут нацыянальны склад насельніцтва больш разнастайны, чым у сельскай мясцовасці, тут больш часта заключаюцца змешаныя ў нацыянальных адносінах шлюбы і г. д. Але тады разнастайнасць нацыянальнага складу насельніцтва беларускіх гарадоў павінна была б увесь час узрастаць. На самай жа справе яна ўвесь час скарачаецца. Доля беларускага насельніцтва вырасла з 1970 па 1979 год ва ўсіх гарадах рэспубліканскага і ў пераважнай большасці гарадоў абласнога падпарадкавання. Калі ўспомніць, што агульная колькасць насельніцтва рэспублікі расце пераважна за кошт росту гарадскога насельніцтва, то цяжка зразумець, чаму ж доля беларусаў ва ўсім насельніцтве рэспублікі пастаянна скарачаецца. Адну з прычын мы бачым у выездзе пэўнай часткі сельскага насельніцтва (у пераважнай масе беларусаў) за межы рэспублікі. Другая прычына — запіс народжаных дзяцей у змешаных (беларуска-рускіх) сем'ях не беларусамі.

Пытанне колькасці народа — не чыста тэарэтычнае пытанне. Так, дзесяцімільённы беларускі народ можа не хвалявацца асабліва з-за некаторага зніжэння яго долі ў межах сваёй рэспублікі (хоць для малалікага народа такое скарачэнне магло б стаць катастрафічным). Але і для нас гэта павінна стаць сігналам таго, што адбываецца штосьці нядобрае з нацыянальнай самасвядомасцю беларускага народа. Думаецца, гэта адно з тых пытанняў, якімі павінна займацца Камісія Вярхоўнага Савета БССР па міжнацыянальных адносінах.

Апошнім часам геаграфічным, дэмаграфічным, этна-сацыялагічным пытанням вывучэння беларускага народа пачынае ўдзяляцца пэўная ўвага. Але як гэта робіцца? Напрыклад, нядаўна завершана анкетнае абследаванне насельніцтва Беларусі па пытаннях міжнацыянальных адносін у рамках падрыхтоўкі да Пленума ЦК КПСС «Аб міжнацыянальных адносінах у СССР». Акадэміяй грамадскіх навук пры ЦК КПСС была распрацавана вельмі цікавая анкета, у якой закраналіся самыя разнастайныя пытанні — ад этнічнай самасвядомасці і адносін у шматнацыянальных працоўных калектывах да рэлігійных поглядаў насельніцтва. У Беларусі было распаўсюджана больш як 2500 анкет. Але па нейкіх незразумелых, хутчэй за ўсё кан'юнктурных меркаваннях ніводнай анкеты не было распаўсюджана ў Мінску. А насельніцтва сталіцы рэспублікі складае амаль чвэрць ад усяго гарадскога насельніцтва Беларусі, і пытанні міжэтнічных адносін паўстаюць тут куды вастрэй, чым дзесьці ў іншых месцах. Думаецца, што такімі метадамі мы ніколі не атрымаем дакладнай і поўнай карціны міжнацыянальных адносін у нашай рэспубліцы. Трэба ведаць рэальнае становішча спраў. Толькі ў такім выпадку мы зможам прымаць канкрэтныя крокі па паляпшэнні становішча.

Беларускі народ мае патрэбу ў комплексным навуковым вывучэнні. Пакуль гэтага няма. І гэта бяда не толькі нашага, але і ўсіх народаў нашай краіны. І ў гэтым, думаецца, адна з прычын вострых успышак нацыянальнай варожасці, аб чым, у прыватнасці, гаварылася ў выступленні па тэлебачанні 1 ліпеня г. г. Генеральнага сакратара ЦК КПСС, Старшыні Вярхоўнага Савета СССР М. С. Гарбачова.

**Геаграфія, як комплексная навука, імкнецца садзейнічаць пераўпарадкаванню планеты на карысць чалавека. Таму непазбежным становіцца зварот географаў і да сацыяльных пытанняў. Гэтак жа непазбежнае і ўкараненне геаграфіі ў этнічную праблематыку. Бо географы лепш, чым хто іншы, ведаюць сапраўднае становішча жыхароў рэгіёна. І ведаюць не з нейкага аднаго боку, а комплексна, усебакова, маюць уяўленне аб усіх рассяленчых, дэмаграфічных, сацыяльна - эканамічных карэннях нацыянальных канфліктаў, што ўспыхнулі ў апошнія гады ў нашай краіне. Зараз, у перыяд абвастрэння нацыянальных праблем, не ўлічваць гэтыя аспекты нельга. Усё часцей мы пераконваемся, што ведамасны, вузкапрафесійны погляд на праблему любога рангу прыводзіць да няправільных рашэнняў. Вось чаму для вырашэння адной з вастрэйшых сёння — нацыянальнай праблемы — патрабуецца і шырокі, прагнастычны погляд географаў.**

**Для таго, каб атрымаць больш поўнае ўяўленне аб народзе, мы павінны прымаць пад увагу ўсе, самыя розныя тэорыі яго развіцця, шукаць у іх рацыянальнае зерне, а не адкідваць, як не адпаведныя догмам. Напрыклад, вельмі цікавую тэорыю развіцця этнасаў распрацаваў ленінградскі вучоны Л. Гумілёў. Паводле яго, этнас уяўляе сабой дынамічную біялагічную сістэму, якая зведвае ў сваім развіцці ўсе стадыі, уласцівыя развіццю біялагічных сістэм. Такі погляд на праблему ўзбагачае наша ўяўленне аб этнасах.**

**У выніку дыферэнцыяцыі навуковых ведаў было страчана вельмі важнае — цэласнае ўяўленне аб народзе. Сапраўды, час вучоных-энцыклапедыстаў мінуў, але ж патрэба ў энцыклапедычных ведах не адпала. І зараз патрэбна цэласная сістэма ведаў аб народах нашай краіны і аб беларускім народзе, у прыватнасці. Дзеля гэтага, думаецца, неабходна стварыць у рэспубліцы навукова-грамадскі культурны цэнтр, які вызначаў бы стратэгію развіцця навукі аб беларускім народзе, каардынаваў бы даследаванні. Такі цэнтр мог бы выконваць ролю экспертнай, кансультатыўнай камісіі пры Камісіі Вярхоўнага Савета БССР па міжнацыянальных адносінах.**

Для навукі аб беларускім народзе вельмі падыходзіць назва «беларусазнаўства». Назва гэта не новая, але незаслужана забытая. У 20-я гады гэтым тэрмінам карысталіся не толькі ў нас у рэспубліцы, але і ў Маскве, дзе быў прачытаны аднайменны курс лекцый, дзе працавалі вучоныя, якія ў далейшым склалі ядро Інстытута беларускай культуры ў Мінску. І не трэба баяцца гэтай назвы — існуюць жа «паланістыка», «угразнаўства», «армяназнаўства», гавораць аб «паўночназнаўстве». Увесь ход развіцця грамадскіх навук у нашай краіне паказвае, што зараз мы вяртаемся да многіх ідэй 20-х гадоў.

Пачаць сваю работу цэнтру беларусазнаўства варта было б са складання вялікай, можа, нават сусветнай бібліяграфіі па беларускім пытанні. Патрэбу ў такой поўнай бібліяграфіі адчувае кожны даследчык лёсу беларускага народа. На пошук крыніц інфармацыі савецкі вучоны затрачвае ці не палову свайго каштоўнага часу.

На жаль, беларусамі, якія жывуць за межамі Беларусі, практычна ніхто не займаецца (існуюць толькі работы Р. Грыгор'евай аб беларусах Латгаліі). А займацца даследаваннем беларусаў трэба не толькі ў плане іх навуковага вывучэння, але і ў плане практычнай дапамогі ім у захаванні роднай мовы, культуры. Ва ўмовах уздыму нацыянальнай самасвядомасці, які назіраецца ў наш час практычна ва ўсіх народаў Савецкага Саюза, у розных рэгіёнах краіны ўзнікаюць беларускія клубы, культурныя беларускія таварыствы. Беларусы, адарваныя ад радзімы, імкнуцца такім чынам захаваць сваю самабытную культуру, мову. Ужо ўзніклі беларускія таварыствы ў Рызе, Вільнюсе, Таліне, Маскве, Новасібірску. Але хіба хтонебудзь у Беларусі каардынуе іх дзейнасць, падтрымлівае з імі сувязь? Таварыствы з вялікай радасцю ўспрымаюць любы кантакт з Бацькаўшчынай, чакаюць ад нас канкрэтнай дапамогі. Для вывучэння беларускай мовы яны ствараюць нядзельныя беларускія школы, але методыкі выкладання беларускай мовы ў такіх школах пакуль не існуе, няма і падручнікаў. Стварэнне іх магло б стаць дастойным укладам моваэнаўцаў, метадыстаў у справу захавання беларускай культуры за межамі Беларусі. Пакуль жа трэба з сумам адзначыць, што беларуская дыяспара адметная ад усіх вельмі высокай ступенню асіміляцыі.

Вялікае значэнне для захавання і адраджэння беларускай нацыянальнай культуры мог бы мець сусветны кангрэс беларусаў. Ідэя гэта не новая. У іншых народаў, якія час ад часу збіраюцца на свае сусветныя кангрэсы, з такой ідэяй звычайна выступаюць, так бы мовіць, эмігранты. Нам жа думаецца, што менавіта Беларусь павінна стаць цэнтрам усіх даследаванняў па беларускім пытанні, цэнтрам кансалідацыі беларускага народа ў мэтах развіцця нашай культуры.

Кола пытанняў, звязаных з вывучэннем беларускага народа, шырокае, ахапіць усе іх вельмі цяжка. Але ўвага да гэтых пытанняў пастаянна ўзрастае. Менавіта з вывучэння народам самога сябе, сваёй гісторыі, культуры, мовы пачынаецца ўздым нацыянальнай самасвядомасці. У Беларусі гэты працэс пачаўся. І мы ўпэўнены: ён — незваротны.

**С. ПОЛЬСКІ,**
прафесар;
**С. МАЦЮНІН,**
аспірант МДПІ імя М. Горкага.

# СУГАЛОССЕ СЁННЯ І ЗАЎТРА

У дні Усесаюзнага перапісу, адказваючы, як і ўсе, на пытанні анкеты, я назваў роднай мовай рускую, на якой напісаны ўсе мае кнігі, а мовамі народаў краіны, якімі валодаю, — яўрэйскую і беларускую.

— Вы ў мяне такі першы, — заўважыла са здзіўленнем мая госця-падліковец.

Высветлілася, што з тых, каго яна запісвала, ні беларусы, ні яўрэі не толькі не называлі свае мовы роднымі, але нават не ўключалі іх у тыя, якімі валодаюць.

Канечне, так было не ўсюды, але ўсё ж гэта наводзіць на сумны роздум.

Як і ўся краіна, як і рэспубліка, Віцебшчына — шматнацыянальная вобласць. Тут побач з беларусамі жывуць рускія, украінцы, яўрэі, латышы, палякі. Так склалася на працягу стагоддзяў.

Апошнім часам мы шмат гаворым аб адраджэнні беларускай мовы, аб тым, у якім становішчы яна апынулася і чаму гэта адбылося. Але ад размоў час перайсці да справы. Час рашаць, як уводзіць мову ў жыццё ад дзіцячага садка і першага класа да ўстаноў і арганізацый, ад адкрыцця школ з паглыбленым вывучэннем мовы да выкладання на беларускім аддзяленні філфака педінстытута ўсіх прадметаў на роднай мове, ад пашырэння кола сустрэч чытачоў і гледачоў з літаратарамі і артыстамі (надта ўжо мала ў прапагандзе беларускай мовы выкарыстоўваецца нацыянальны тэатр імя Якуба Коласа) да перайменавання вуліц (адных ждануаўскіх у горадзе — 8, а ў вобласці гэтае імя ў назвах сустракаецца не менш).

Мова народа нямыслімая без ведання яго гісторыі і культуры. І таму можна спадзявацца на адкрыццё спецыяльных курсаў, цэнтраў, дзе і будзе ўсё вывучацца ў комплексе. Узнікнуць (ужо ўзніклі) праблемы, звязаныя з выкладчыкамі, праграмамі, падручнікамі (як не пазайздросціць: у Грузіі толькі што выйшаў 2-гі том васьмітомнага выдання — «Нарысы гісторыі Грузіі»). І ўсё-такі гэтыя праблемы не сёння, дык у бліжэйшыя гады вырашальныя. А гэта важна для ўсіх, але асабліва для маладых гарадоў. Дарэчы, у Наваполацку ўжо працуюць першыя ў рэспубліцы курсы па вывучэнню беларускай мовы, гісторыі, культуры, на якія збіраюцца людзі розных нацыянальнасцей. І радасна, што стварылі іх маладыя літаратары Лявон Баршчэўскі, Навум Гальпяровіч, Ірына Жарнасек. У рэчышчы гэтай работы праводзіць свае пасяджэнні аб'яднанне «Узгор'е». Праўда, на шляху нефармалаў шмат перашкод. І незразумела, чаму хтосьці ў нашы дні спрабуе тармазіць работу па вывучэнні гісторыі народа, яго культуры і мовы, якую вядуць аматары даўніны, захавальнікі помнікаў архітэктуры... На жаль, яшчэ знаходзяцца забараняльнікі, і — то членам «Узгор'я» не дазваляюць выступаць у віцебскіх школах, то бэсцяць іх у прысутнасці дзесяткаў сведкаў у лекцыях, прыпісваючы ім самыя розныя грахі...

І вось яшчэ адна прыкмета часу: у сярэдзіне студзеня ў Віцебску адкрыўся гурток па вывучэнню яўрэйскай мовы — ідзіш, на якой пісалі Шолам Алейхем і Леў Квітко, на якой гаварыў, выходзячы на сцэну, Саламон Міхоэлс.

На першае пасяджэнне сабралася 55 чалавек. Да вывучэння мовы пацягнуліся людзі розных пакаленняў, але ў асноўным — моладзь. І зразумелае жаданне маладых пайсці яшчэ далей: зрабіць гурток толькі адной з секцый асветніцкага таварыства, якое будзе вывучаць і мову, і гісторыю, і культуру. (Такія таварыствы створаны ў Мінску і іншых гарадах краіны). Маладыя мараць — і гэта зусім рэальна, — каб на вечарах у канцэртных праграмах загучала яўрэйская народная музыка, яўрэйскае паэтычнае слова. У гурток ходзяць і тыя, хто піша на ідзіш: у часопісе «Савеціш геймланд», што выходзіць у Маскве, друкаваліся вершы пенсіянера Л. Юдовіна, публіцыстыка інжынера А. Зельцэра.

Ёсць прапанова аб стварэнні спецыяльнай камісіі па нацыянальных справах, якая магла б дзейнічаць пры аблвыканкоме (ёсць жа такая ў рэспубліканскім маштабе). Яна займалася б міжнацыянальнымі адносінамі, садзейнічала б вывучэнню беларускай, яўрэйскай і іншых моў і культур у вобласці.

Чарговы выпуск альманаха «Братэрства», які выходзіць у выдавецтве «Мастацкая літаратура», прывабіць увагу яшчэ адным пачынаннем. Паэт Уладзімір Папковіч пераклаў на беларускую мову з цыганскай вершы і прозу віцебскага выкладчыка Вальдэмара Калініна. Як заўважыў Рыгор Барадулін — гэта першыя пераклады з мовы цыган у нашай рэспубліцы. І вось мы пры сустрэчы гаворым з У. Папковічам аб тым, што ў горадзе і вобласці жывуць цыгане. І чаму б і для іх не арганізаваць гурток ці таварыства па вывучэнню мовы і культуры?

У многіх таварышаў на розных узроўнях з'явілася актыўнае імкненне стрымаць, а то і спыніць размовы аб мінулым. Гэта нібыта перашкаджае працаваць сёння і рухацца наперад. Але як нам не рабіць вывадаў з 70-гадовай гісторыі краіны, рэспублікі? Як не прааналізаваць тое, што звязана з нядаўнім мінулым, высветліць, чаму так сталася з беларускай і іншымі мовамі?

Прычын шмат. І яны — прадмет вывучэння гісторыкаў, грамадазнаўцаў, філолагаў. Тут і палітыка паскоранага ператварэння розных моў у адну. І доўгія гады сталінскіх рэпрэсій.

Тут да месца будзе ўспомніць і пра лекцыйную прапаганду, аб тым, якую шкоду міжнацыянальным адносінам прыносілі, мякка кажучы, блытаныя лекцыі, якія гучалі па ўсёй рэспубліцы. Такія лектары яшчэ зусім нядаўна выступалі і ў нашай вобласці, то нападаючы на «нейкага М. Шатрова» (ён, ці бачыце, утойвае сваё сапраўднае прозвішча пад псеўданімам), то на В. Быкава (ён, аказваецца, падтрымлівае не тых, каго трэба, і на сходзе «Мартыралога Беларусі» няправільна сябе паводзіў, «здзекліва ўсміхаўся»), то на нефармалаў (на гэтых з лёгкай рукі некаторых «дзеячаў» можна «навешваць усіх сабак»). Складана разважаць аб адраджэнні мовы і культуры, калі так бесцырымонна зневажаюцца творчыя асобы, чалавечая, грамадзянская годнасць пісьменнікаў.

Нам не хапае штодзённай, пастаяннай работы ў тонкім і далікатным пытанні міжнацыянальных адносін. Калі праводзяцца адзіныя палітдні, трэба іх скарыстоўваць для пропаведзі дружбы народаў, калі рыхтуюцца канцэрты мастацкай самадзейнасці — няхай у іх гучыць беларуская мова і розныя мовы нашай рэспублікі. Бо варта толькі ўявіць, на колькіх мовах можа загаварыць на такім свяце адзін толькі шматнацыянальны Наваполацк! А іншыя гарады і сёлы?

Усё гэта можа і павінна стаць не проста кампаніяй напярэдадні Пленума ЦК КПСС па нацыянальных пытаннях — усё гэта павінна стаць самім жыццём, інтэрнацыяналізмам сёння і заўсёды.

**Д. СІМАНОВІЧ.**

## Проза



Ірына Жарнасек

# АПАЛЬШЧЫК

*апавяданне*

ЗАПАЛКІ адвільготнелі. Сініца чыркаў імі па размяклым карабку, ламаў, кідаў пад ногі і буркліва нягучна лаяўся. Засталося толькі некалькі запалак. Ён заціснуў іх паміж пальцамі і шмаргануў апошні раз —ні іскрынкі. Сядзеў на кукішках у цемры, прыпёршыся плячом да пліты, углядаўся ў той бок, дзе павінна было быць акно, і не бачыў яго.

Вось табе і прочкі! Каго напужаў? Каму што даказаў? Сама, нябось, у добрым ды цёплым, з крыўдаю падумаў пра жонку і склытануў ад прыкрасці зубамі. Каб не ейны доўгі язык ды не ейныя бабскія выкрунтасы, не калеў бы і ён у гэтай настылай будыніне ды не стрыг бы вушамі, як той заяц, што дзе трэсне ды звякне-грукне.

Што ж рабіць? Зноў выправіцца ў дарогу? І ажно скалануўся, узгадаўшы, як бухаўся па цаліку сем кіламетраў, як адпачываў раз-пораз пад прыдарожнымі ялінамі і міжволі цікаваў на бакі: а раптам які дурны ваўчыла бадзяецца ды шукае наедак...

Не, лепей ужо ноч пралескацець тут сваімі зубамі, чымсьці трапіць на звярыныя.

І вось жа дурань! У дарогу выпраўляўся, а пра запалкі і не падумаў. Думаў, што ўсё тут ляжыць і чакае Сініцу? Быў час, што і чакала. Ляжала і чакала. Там, дзе паклалі. І святло было. Пстрыкнеш выключальнікам — і ўсе куты, як на далоні: і на кухні, і ў спальні, і на мансардзе.

Іван задраў голаў, прыслухаўся—ціха, чорна, як у яме. Рыпнула на двары сасна і зноў—ні гуку. Змярцвелі ногі. Ён выпрастаўся, чакаў, калі супакояцца прыкрыя жыгучыя мурашкі, што пабеглі ад ступакоў да калень. Непамысна ён чуў сябе сярод гэтай цемры і цішыні, сярод соннага заснежанага лесу ў халодным, нікому непатрэбным доме. Толькі зарыцца і спаць, калі здолееш тут заснуць. Асцярожна пасунуўся туды, дзе павінны быць дзверы ў суседні пакой, намацаў іх і таўхануў. Хоць ты вока выкалі! Вобмацкам пашукаў канапу—сеў. Ні пехцяра з конскага воласу, ні коўдры, ні падушкі. Гэта ж ён сам па восені скруціў усю пасцелю і завалок на другі паверх. Быццам, каб хто залез сюды, то не скумекаў бы падняцца па лесвіцы ды паглядзець, а што там паны забыліся?

Ісці туды? Уявіў, як будуць рыпець прыступкі, як у цемры будзе валтузіцца, лязгацець ключамі... Ды гары яно гарам — перамучаецца неяк да раніцы. Сініца падціснуў рукі ў рукавы, прытуліў іх да жывата і паваліўся на канапу.

Во як яно бывае. Ляжыць Іван Сініца на канапе самога Гаўрылы Іванавіча і ні кропелькі не цешыцца, і ніхто яму не пазайздросціць, і ніхто не пакваліцца на ягонае месца. А каб ведаў сам Гаўрыла Іванавіч? А нічога ж бы і не было. Пасунуліся б ягоныя рудыя бровы на вочы, як заўсёды, калі ён быў нечым незадаволены, а слоўца гнеўнага не вымавіў бы. Не, не сказануў бы ані слова, як раней, калі гневаўся. Моўчкі вылаяўся б.

Не ўжо, дарагі Гаўрыла Іванавіч, адаспаў ты сваё на гэтай канапе, адкачаўся на белых падушках, казы надзёр, не пры людзях кажучы, во на гэтым самым месцы пасля лішку каньяку. Спіш цяпер недзе на цвёрдзенькай пасцельцы і ясі не ласяціну-парасяціну, а тое, што плёхнуць у тваю бляшаную міску з вялізнага сагана. Як там толькі твой гастрыт вытрымлівае той харч? І ніхто зараз не надчэквае цябе гэтак, як чакалі ў гэтым доме, ніхто дзеля аднаго цябе лазеньку не напаліць, бярозавічкам спіну не пахвошча. І пэўна ж, не спусціцца да цябе з другога паверха Антаніда ў кашулі, якую мая Глаша каб мела, дык толькі б на святкі ды ў людзі адзявала б, пазашываўшы, вядома, усе рэхі-прарэхі.

Не да прарэхаў табе ўжо, не да траляў-валяў і тваёй Антанідзе. Кажуць, выправілі яе паднімаць сельскую гаспадарку. Ну і падніме. А куды ж яна дзенецца? Во недзе мучаецца твая цацарачка! Яна ж буракі, ды бульбу, ды моркву толькі ў салатах, пальчык адставіўшы, каштавала. Можа, і думаць не думала, што тыя прысмакі падкармліваюць смярдзючым гноем.

Ды ўсё-ткі няхай сабе бяда-гора, але ж і не гэткае, у якую трапіў ты, Гаўрыла Іванавіч! Пасядзіць-пасядзіць твая ясачка гадок-другі на тых бураках і не агледзішся, як зноўку ў начальства выскрабецца, і зноўку—не адзін жа Гаўрыла ў Полацку—знойдзе сабе нейкага пры гальштуку, ды зноў пачнуць смажыць шашлыкі.

А во было жыццё! Эх, трасца таму ў бок, хто перавярнуў-перакруціў яго!

Сініца крутнуўся, лёг на спіну і выпрастаў змярцвелыя ногі. Але без падушкі нязручна было гэтак ляжаць, і ён сеў. Каб заснуць хоць на паўгадзіны, і то скарэй бы час пабег, дык во лезе ж усялякае ў галаву. Што, падумаўшы, цяпер шукаць учарашні дзень? Дык жа не, чапляецца: адно за адно, адно за адно.

Падняўся. Патупаў на месцы—прыслухаўся. Пяць гадоў абаграваў ён гэты дом, не злічыць, колькі начэй адзін пракукаваў у ім і каб калі злякнуўся. Не, было напачатку трохі, было. А потым звыкся—ні табе шум баравы. Ён ведаў, што дом належыць самаму высокаму гарадскому начальству, а Сініца ў ім—апальшчык, гэта значыць—галава. Бо хоць у той паперы, у якой ён штомесяц крэмзаў сваё неразборлівае «Сініца» за клетачкай, у якой заўсёды стаялі ягоныя 120 рэ, хоць у той паперцы і пісалася, што ён апальшчык, а не хто іншы, ён ведаў: гэта азначае, што ён і вартаўнік, а калі трэба, то і кухар, а калі трэба, то і прыбіральшчык, і лазеншчык, і... Добрая была работа, што там богу грашыць—добрая. На пуп не рваў, нервы ніхто не бэрсаў, мазалёў не нажыў. Ад чаго яны маглі тут быць, мазалі тыя? Ад сякеры, калі пару разоў маханеш, каб шчэпак надрабіць? У пліце паліў брыкетам. Адно глядзі, каб не напусціць чаду.

Антаніда надта яго баялася. Ажно трэсла, бедную, як уроіцца ёй у галаву, што смярдзіць дымам. Прыбяжыць сярод ночы і—нюхае, нюхае. А потым як увяла і Гаўрылу Іванавічу ў вушы—удваіх пачалі нюхаць. Іншы раз толькі дом суцішыцца, толькі ўтэпаеш гаспадарку—прыбярэш са сталоў, памыеш посуд (Гаўрыла Іванавіч надта не любіў назаўтра паху бруднага посуду), падатрэш затаптаную падлогу і рады невядома як, што да падушкі дарваўся, а тут адчыняюцца дзверы і... «Мне здаецца — чад!» Паслаў бы, здаецца, ад прыкрасці разам з ейнымі зданкамі, як найдалей, дык жа не, не буркнеш нават, а раскатурхаешся так-сяк, ідзеш адчыняць юшку, выганяць праз усе дзіркі той нябачны жудасны смурод. А каб жа ён быў там! Ніхто ж, апроч яе, і вухам не вёў...

Любіла капрызіць, ой, любіла. А калі ўжо, не дай бог, каторы прывязе сюды каралеву, ажно зелянее. Слова не скажа, ды Сініца нутром чуе—зелянее Антаніда.

«Ці яны ўсе бабы гэткія?»—часам думаў Іван, бразгаючы каля пліты. І такая злосць разбірала—чамусьці на сваю Глашу. Быццам не Антаніда, а ягоная Глаша, забыўшыся на свайго мужыка, балявала з чужымі мужчынамі ў шыкоўным доме сярод лесу. Быццам ён не для Антаніды, а для сваёй Глашы мыў падлогу, напальваў печы, ставіў квас, сушыў рыбку.

Мікола, самы маладзейшы з гаспадароў, аднаго разу быццам сцяміў, што творыцца ў Іванавай душы. Прывалокся да яго з бутэлькай каньяку, у якой на дне яшчэ плёхалася з паўшклянкі, і давай вярзці, што ён, Мікола, з ахвотаю махнуў бы месцамі з кім заўгодна, хоць бы і з апальшчыкам. Бо за што могуць вытрасці душу з апальшчыка? Хто да яго чапляецца: дай тое, дай гэна? Сядзі сабе тут на прыродзе, адно што камары назаляюць. Дык можна завезці кралю, няхай адганяе. Мікола даў Сініцу пацягнуць з рыла, астатняе выліў у сваю глотку, адкінуўшы пры гэтым галаву і шырока разявіўшы рот. Ніхто не ўмеў гэтак піць, як Мікола—не выпіваць, а выліваць, выпліхваць у рот, прычым ягоны вострага кадык у гэты час нерухомеў, а рот закрываўся толькі тады, калі ў пасудзіне не заставалася ні кроплі. Мікола зарагатаў: «Трэба табе тут падол, трэба. А чаго аднаму ваўком выць, як нас няма?» Сініца пачмыхаў пад Міколава «гы-гы-ты», а потым, і зусім пасмялеўшы ад каньяку, папытаў: «А што ты сам, Мікалай Антонавіч, ніякай каралевы не прывязеш? Не паверу, што не маеш! Ці гэтак жонкі баішся? Самы малады, а да бабскага падала не падкі». «Э-э-э, Сініца!—паківаў Мікола пальцам.—Не той пан, што прапаў, а той, што панам і застанецца».

І вось жа застаўся, каб яго качкі... Усіх, хто ездзіў у дамок, і след замяло, усё начальства ў горадзе выстрэльвала са сваіх крэслаў, як каменьчыкі з рагатак у падшыванцаў, а гэты сядзіць сабе недзе за вялізным сталом, засланым, пэўна ж, зялёным сукном, пасмейваецца ды па тэлефонах галёкае.

І вось жа вазьмі ты гэтага Міколу. Балбатаў, балбатаў, а сам далёка прыглядваўся, з прыцэлам. Куды каго шпурнула-матлянула, а яго яшчэ і на паверх вышэй падкінула ды ў мяккае, нябось, скуранае крэсла ды за зялёны стол чмякнула.

Далёкая, безнадзейная мара Вані Сініцы—стол, засланы зялёным сукном. Мара даўным-даўно перагарэла, згасла, і попел ветрам раздзьмухала. Толькі калі-нікалі быццам заказыча нешта, заные недзе глыбока-глыбока. І ўбачыць ён тады вялізны чырвоны стол з цяжкімі скрынкамі, якія ён, сямігадовы падшыванец,* можа выцягнуць толькі тады, калі ўхопіцца аберуч за бліскучую балдавешку, упрэцца штомоцы пятамі ў ножкі стала з шашалевымі слядамі і высуне язык. Стол засланы зялёным сукном, якое маці заўсёды здымае, калі Ваня робіць на ім урокі. І праз шмат гадоў, пачуўшы: «Мой мілы таварыш, мой лётчык»,—яму адразу бачыўся той доўгі вузкі кабінет з цяжкімі спалавелымі ад сонца шторамі, чорнымі скуранымі крэсламі, якія доўга блішчаць пасля таго, як пашмулёгае па іх матчынаануча. Увогуле, яна вельмі ўвішная, гэтаяануча ў матчыных руках—быццам гоніцца за кім, альбо ўцякае. Вось яна патанцавала па падваконніках, пераскочыла на крэслы, на вялізную жалезную скрынку з агромністым замком... Ваню чамусьці здаецца, што маці пабойваецца гэтай скрынкі і таму ейны голас глушэе, калі яна пачціва вымаўляе: «Сейфа».

Звычайна маці працуе моўчкі, ды зрэдку, калі Ваня глядзіць ужо не ў кніжку, а ў акно, яна бярэцца яго выхоўваць. «Старайся, сын,—кажа яна, — старайся. Як вывучышся на чалавека, дык, можа, таксама будзеш сядзець во за гэткім самым сталом. А будзеш гультаяваць ды гойсаць па пустых сцежках, дык адно і застанецца, што, во, як мне, за другімі падціраць».

Ваня—хлопчык паслухмяны, для яго матчыны словы—не пугаю па вадзе. Аднаго разу толькі як нячысцік за язык цеганув: «А ты, мамка, хіба па пустых сцежках шмат гайсала?» Мокраяануча б'е так, што доўга помніцца. Ён запамятаў тую навуку на ўсё жыццё. Тады і вырашыў: ніколі нізавошта не будзе прыбіраць за другімі, няхай прыбіраюць за ім. Ды калі яшчэ тое прыйдзе, а Ваню ўжо тады надта ж карцела хоць адзін-аднюсенькі разок папісаць на стале, засланым зялёнаю сурвэтаю, хоць разок адчуць сябе начальнікам. Але маці баіцца, што ён запляміць сукно. І ён аднаго разу ткі запляміў. Падлавіў момант, калі маці панесла вытрасаць сметніцы, хуценька расклаў на стале падручнікі, сшыткі, паставіў чарнільніцу і... Фіялетавае з зеленаватым адценнем чарніла выпліхнулася з ягонай надзейнай невылівачкі на сукно. Ваня схапіў прамочку, пачаў выціраць... Хутка чарнільныя сляды былі не толькі на сурвэце, сшытку і «Арыфметыцы», але і на ягоным твары. Тая бяда толькі ўзмацніла ягонае рашэнне стаць начальнікам. І ніхто тады не насмеліцца адхвастаць Ваню крапівой—нават калі ён разверне на сваім стале чарніла.

Хто ведае, можа, і дамогся б свайго. Ды неўзабаве вясёлага лысага бухгалтара як карова злізала з таго кабінета пасля нейкай страшнай рэвізіі. Больш Ваня не рабіў урокаў у тым доўгім кабінеце, бо маці пайшла на свінарнік і ўжо не мела болей часу навучаць яго і страшыць анучаю.

Так неўпрыкмет згасла ягоная мара і толькі зрэдку нагадвала пра сябе без асаблівага болю—так, варушыўся недзе ўсярэдзіне чарвячок, гэтаксама, як і тады, калі ўсплывала ў памяці ягонае безнадзейнае каханне ў сёмым класе да аграномавай дачкі...

Холад дабраўся ўжо і да ступакоў —не глядзі што ў валёнках. Сініца падняўся, патупаў на месцы, аціх і прыслухаўся: «Во дурны!—лаяў сам сябе ў думках.—Хто тут можа быць? Чаго стрыжэш вушамі?» Ды маўклівая лаянка не надта надавала ўпэўненасці. Нязвыклая цішыня некалі вясёлага дома, відаць, мацней за холад ціснула яго з усіх бакоў, блытала думкі, адганяла сон. Ён ступіў некалькі крокаў да выхаду, выцягнуў рукі і пачаў шукаць дзверы. Рука намацала каля вушака выключальнік. Па звычцы пстрыкнуў ім і... зажмурыўся ад яркага святла. Пад столлю, быццам і не было ніякага пярэпалаху, а гаспадары дома яшчэ мелі сілу і вось-вось маглі сюды заявіцца, радасна свяцілася лямпачка. Вось табе і на! А яму ж сусед Зміцер наплёў, што абрэзалі сюды электрычнасць. А Іван, ёлупень, паверыў таму кульгаваму пустабрэху, зайздросніку. Быццам забыўся, як сам Зміцер мецiў некалі на апальшчыка: прынюхаў цёплае месца і пайшоў да брыгадзіра скардзіцца на сваю грыжу. Ды брыгадзір выбраў Сініцу: хто гэта будзе любіць гэткага балбатуна, як Зміцер, у яго што ў галаву ўскочыць, тое адразу ж і на язык, і на людзі. А Сініца не прасіўся, яго самога паклікалі, папрасілі, можна сказаць. І ён паслухаўся. А чаму ж і не паслухаць добрых людзей, калі яны да цябе па-людску? Так і зрабіўся ён апальшчыкам. На ўсю ваколіцу быў адзін апальшчык—Іван Сініца. Нязвыклая работа, вядома. Ды

дзе гэта не патрэбна.

Другі момант — арганізацыйна-творчы. Далёка не з усіх нашых тэатральных устаноў курс студэнтаў-акцёраў выпускаецца з рэпертуарам. Беларускія студэнты прадставілі чатыры спектаклі і канцэрт, дзе выявіліся неаднапланава, дзе змаглі паспрабаваць і «высвеціць» сябе ў розных напрамках.

Сапраўды, спектаклі, якімі гэты курс закончыў сваё навучанне ў інстытуце, гранічна розныя. Мяркуйце самі: «Вішнёвы сад» А. Чэхава, «Тутэйшыя» Янкі Купалы, «Дзве стралы» А. Валодзіна, «Дом вокнамі ў поле» і «Дваццаць хвілін з анёлам» А. Вампілава. Ёсць прастора і для думак, і для праяўлення дыяпазону свайго майстэрства. Праўда, не ў кожнай рабоце рэжысёры і студэнты здолелі прадэманстраваць належны ўзровень пастаноўкі і выканання. Яскравыя, выразныя сцэны, якіх глядач за гэтыя дні ўбачыў нямала, вельмі рэдка выраслалі ў яскравую і выразную суцэльнасць: яшчэ замінае вучнёўства.

Рабіць разбор спектакляў не буду: гэта зрабілі ўжо члены экзаменацыйнай камісіі, крытыкі. Але некалькі слоў скажу.

Інстытуцкая пастаноўка «Тутэйшых» Янкі Купалы (рэжысёр Б. Утораў) — толькі трэцяя ў рэспубліцы, і, відаць, у краіне таксама, але на выпускным экзамене студэнты ігралі яе не ўпершыню: яшчэ раней зацікаўленыя маглі пазнаёміцца з класічнай п'есай у інтэрпрэтацыі студэнцкага тэатра. Некаму магло здацца, што спектакль залішне асучаснены, што яго стваральнікі праводзяць надта ж празрыстыя паралелі з падзеямі нашых дзён. Але, думаецца, такі падыход сёння цалкам заканамерны і нармальны. Тым больш, калі ўлічыць, што не апошняе слова ў вырашэнні спектакля мелі і самі студэнты. А студэнтам, на шчасце, яшчэ ўласціва жывое, калі хочаце, максімалісцкае ўспрыманне з'яў, падзей, калі яны нечым хвалююць, бянтэжаць, узрушаюць... Красамоўны і той факт, што, паводле У. Мішчанчука, маладыя артысты выбіралі ролі самі, кіруючыся тым, хто што можа і хоча сказаць са сцэны.

Пра два спектаклі паводле п'ес Вампілава спрэчак было няшмат. Гэта таксама неадназначна, бо гледачы, так мне здалося, успрынялі гэтыя работы лепш за ўсе іншыя, хоць яны і не «кранаюць» так непасрэдна, як, скажам, «Тутэйшыя» або «Дзве стралы». І справа тут не толькі ў сіле пранікнёнай болем і душэўнасцю вампілаўскай драматургіі, але ў шчырасці, з якой «неслі» яе са сцэны маладыя акцёры. Тут можна гаварыць і пра эмацыянальны настрой, і пра складанасць экспазіцый (даволі прыцяглы кавалак часу акцёры іграюць моўчкі)... Але галоўнае — шчырасць, дзякуючы якой глядзельная зала быццам бы прасяквалася дабрынёй, чысцінёй, болем і крыўдай за кожнага з нас, за тых, хто побач... Вядома, на адной шчырасці акцёр далёка не паедзе. Але ці не мы сведкі таго, што дзесяткі спектакляў, у якіх і ўзровень ігры належны, і драматургія годная, нярэдка не ўспрымаюцца, проста «абмінаюць» гледача. І прычына, на маю думку, якраз у тым, што ігра — няшчырая... А глядач гэта вельмі добра адчувае.

На абмеркаванні выпускных спектакляў прагучала думка, што сёлетні курс — гатовы тэатр: не заўсёды паспяхова, але студэнты працуюць у розных жанрах і амплуа. Плён відавочны, бо недарма ж на Першым міжрэспубліканскім фестывалі вучэбных тэатраў «Авансцэна-88», што праходзіў нядаўна ў Смаленску, кіраўніцтва тамтэйшага тэатра пажадала «купіць» спектакль «Дзве стралы» разам... з выканаўцамі роляў!.. Студэнты выпускнога курса БДТМІ прывезлі з таго фестывалю дыплом і галоўны прыз — у выглядзе ключа да сэрцаў гледачоў.

Безумоўна, самыя нялёгкія дні, а то і гады, яшчэ наперадзе ў выпускнікоў тэатральна-мастацкага. Наперадзе і ўдачы, і расчараванні, і празаічныя жыццёвыя праблемы. У некага з гэтых юнакоў і дзяўчат толькі ўзмоцніцца жаданне іграць, нехта, не выключна, кіне акцёрскую справу. Ва ўсялякім разе пажадаю ім усім не згубіць шчырасці — якасці, без якой чалавеку мастацтва цяжка знайсці свой шлях (або ключ, як у Смаленску) да сэрцаў гледачоў. **М. КРАПАК.**



Л. РАХЛЕНКА. 1977 г. Фота Ул. КРУКА.

служанага Рахленкам прызнання — факт, што яму двойчы на вяку тэатра даручалася мастацкае кіраўніцтва калектывам: у гады перадваенныя, ва ўмовах, калі, напрыклад, старшыня саюзнага камітэта па справах мастацтваў на вачах у яго збялеў, прачытаўшы «Хто смяецца апошнім», і пад канец пяцідзесятых, для купалаўцаў зноў жа складаных, раздарожных.

...Сваёй прапановай Леанід Рыгоравіч аглушыў мяне якраз у пару, калі другім заходам стаяў на капітанскім мосціку нашага тэатральнага флагмана. Не ў дакор яму гаварылася тое, што пры агромністай разнапрофільнай начытанасці пра Судзілоўскага ён уведаў упершыню толькі тады. Нічога дзіўнага. Касмапаліт (не ў адыёзным сэнсе слова, у першасным высакародным: па-грэчаску гэтае слова азначае «грамадзянін свету»), рэвалюцыянер, вучоны, пажыццёвы вандроўнік па планеце, Судзілоўскі колькі дзесяцігоддзяў быў у нас фігурай для папулярызацыі непажаданай. Дастаткова сказаць, што з савецкіх энцыклапедый у адной медыцынскай можна было знайсці пра яго кароткую нататку — гэта пры шырачэзнай міжкантынентальнай вядомасці. Аб'ёмістыя даследаванні, аповесці, паэмы з'явіліся пазней. Першааднаўленцы ж прызабытага слаўнага імені — мне прыемна, што магу лічыць адным з іх і сябе, — узнімалі яго амаль як з небыцця.

У клопаце, які з галоўным рэжысёрам заўсёды, у няспынным пошуку драматургіі, блізкай, на яго думку, дарозе, якой ён вёў тэатр, абрыс шматмудрага беларуса ў крэсле старшыні сената богведама як далёкіх ад Магілёўшчыны Гаваяў убачыўся Рахленку ў цэнтры ўражлівай сваім антуражам сцэнічнай гравюры.

Дзе дзенешся, і Рахленка ставіў, бывала, у тыя гады п'есы і пра аграгарады, і пра недастаткова пільных, палітычна наіўных пры апантанасці сваёй навукай прафесараў. Аднак жа сам саркастычна кпіў са школьнай зададзенасці сюжэтаў, кардоннасці дзейных асоб у гэтай калялітаратурнай прадукцыі. Ён лічыў, што сапраўднае прызванне тэатра — абуджаць у сэрцах высокае, высвечваць вартыя пераймання духоўнасць, мужнасць, вернасць, цвёрдасць. Але добра разумеў, што місіі такой не выконваюць, а наадварот, яе дыскрэдытуюць мілыя апекунам мастацтва з важных кабінетаў фальшывадыдактычныя тварэнні пра плакатных перадавікоў.

І вось з'яўляецца загадкавы сілуэт Судзілоўскага на фоне грозных непатухлых вулканаў архіпелага ў акіянскім бязмежжы, вулканаў, што сваім вуркатаннем, выкідамі час ад часу чырвона-чорнага дыму адкрывалі б прастору для алегорыі... Гэтае відовішча лажылася яму на душу, відаць, і таму, што заяўленым жаданнем расказаць гледачу пра несправядліва зацэненага, надзвычай цікавага чалавека, сапраўднага героя, ён атрымліваў козыр у супраціўленні ўсяму хадульнаму, схематычнаму, чаго больш як удосталь тэатру дасылалася, навязвалася, рэкамендавалася.

Каб ува мне не ўзнікала сумнення ў сур'ёзнасці яго намераў, Леанід Рыгоравіч дамовіўся аб заключэнні са мной дагавору. Спецыяльна схадзіў, прыхапіўшы мяне, у Міністэрства культуры. Намеснік міністра не ведаў, пра што ў нас пытацца, прабегшы вачыма анатацыю твора, які я абавязваўся напісаць. Аднак засцерагальна — нельга ж чалавеку пры пасадзе ды не знайсціся з парадай ці папярэджаннем — прамовіў:

— Нас не ўпікнуць, што прапагандуем экспарт рэвалюцыі? Не дасцё падставы? Цяпер да гэтага ставяцца інакш, ведаеце ж.

Адкуль было мне ведаць напрамак ветру ў завоблачнай высі? Ды Леанід Рыгоравіч павёў брывом, нібы меў гаворку на гэты конт, сама меней, у міжнародным аддзеле ЦК КПСС. Драбнаваты фактурай, асабліва поруч з ім, намеснік міністра сумеўся:

— Разумею, разумею. Я на ўсякі выпадак — нам жа, калі што не так, таксама ківаюць...

Як ён дадаваў сілы, творчы саюз з Рахленкам, тым, каму на такі саюз шчасціла! Калі мы сустракаліся пазней, праз шмат часу ад дзён нашага, дазволю сабе такую фігуральнасць, падарожжа ў адной лодцы ўтрох — Судзілоўскі, Рахленка і я, — Леанід Рыгоравіч прыгадваў часам, як далучаліся да супрацоўніцтва з тэатрам прызнаныя ўжо празаікі і паэты, якія, аднак, апасліва ставіліся яшчэ да жанру драматургіі — Кузьма Чорны, Змітрок Бядуля, Кандрат Крапіва. І я думаў кожны раз, што тое далучэнне адбылося ў немалой ступені дзякуючы яму, Рахленку. Тады, у трыццатыя гады, на ўстанаўленне кантакту з літаратарам, у якім тэатр адчуў патэнцыяльнага аўтара, калегі часта накіроўвалі яго, бо інтэлект, дыханне ўнутранай сілы, нават самавітасць гэтага чалавека садзейнічалі ўзнікненню ў пісьменніка даверу да працягнутай тэатрам рукі на дружбу.

Помняцца маляўнічыя жывінкі з тых згадак.

Скажам, як, пачаўшы рэпетыцыі «Бацькаўшчыны» Кузьмы Чорнага, акцёры натыкнуліся ў тэксце п'есы на незразумелае, не чутае нікім ніколі слова «пахлявацкаваць». Аўтара ж, каб растлумачыў яго сэнс, не было на той час у Мінску — паехаў адпачываць. Паткнуліся да мовазнаўцаў — усе пацiскаюць плячыма, не могуць памагчы. Адзін усё-такі знайшоўся, важна сказаў, што ёсць такое слова, бытуе, як дыялектнае, на Магілёўшчыне, і блізкае сэнсава да рускага «поощрять». Лідзія Іванаўна Ржэцкая, якой па ролі дастаўся загадкавы дыялектызм, ніяк не магла даўмецца, з чаго яму, гэтаму «поощрять», быць у той рэпліцы... Ды вярнуўся, нарэшце, з адпачынку Чорны і высветлілася, што злашчаснае «пахлявацкаваць» — звычайная памылка машыніcткі. Так яна надрукавала з рукапіснага арыгіналу «па хлявах хаваць». Рагаталі, зразумела, да слёз—не з машыністкі, ясна, а з важнага спеца па дыялектах.

Які па-дзіцячы шчаслівы быў Змітрок Бядуля, калі сачыў за нараджэннем сцэнічнай версіі свайго «Салаўя». Да драбніц цікавіўся мазгаваннем мастака, сакрэтамі эфектаў асвятлення, гуку. Збіраўся наведацца ўлетку сорак першага ў Адэсу — тэатр павёз туды ў гастрольным рэпертуары і гэты спектакль, — хацеў убачыць, як прымаюцца яго героі слыннымі тэатраламі адэсітамі. Хто мог ведаць, што тое лета выправіць і яго, і тэатр іншымі, нярадаснымі маршрутамі!..

Яшчэ было няблізка да прэм'еры «Хто смяецца апошнім», а па Мінску пайшоў ужо розгалас пра дзёрзкую, найвострую камедыю, аддадзеную тэатру Кандратам Крапівой. П'есу чыталі, правяраючы, якое яна робіць уражанне, па ўстановах, па рэдакцыях. Не быўшы сам першакласным чытальнікам, аўтар звычайна прасіў аб дапамозе Леаніда Рыгоравіча, і Рыхленка ахвотна на просьбы адгукаўся, з асаладай шмат разоў падаваў п'есу студэнтам, журналістам, навукоўцам, пераконваючыся, што прымаецца яна, як сатырычная бомба...

Я праслужыў тады, на пачатку шасцідзесятых, у штаце радыё нешта трынаццаць месяцаў, потым з радыё развітаўся і зноў стаў газетчыкам. Але сталася так, што праз пятнаццаць гадоў туды ж, у рэдакцыю літаратурна-драматычнага вяшчання, вярнуўся, і ўжо надоўга. Пры сустрэчы з Леанідам Рыгоравічам пачаў упрошваць яго ці накідаць на паперы і потым прачытаць перад мікрафонам, ці непасрэдна нагаварыць у студыі свае ўспаміны, мемуарную «радыёкнігу». На манер таго, як зрабілі гэта ў Маскве М. С. Ціханаў, М. М. Яншын. Угаварыў не адразу — здароўе на той час пачало падводзіць Леаніда Рыгоравіча, і па сваёй згаданай ужо ранімасці, нервовай няўстойлівасці ён зрабіўся на планы і абяцанні асцярожны. Але ўсё-такі, нарэшце, угаварыў. І калі з'явілася паласа прасвету ў яго настроі, адчуўся прыліў на колькі тыдняў ранейшай энергіі, унутранай патрэбы працаваць і тварыць, ён прынёс старонкі напісанага пра адносіны тэатра з Чорным, з Бядулем, з Крапівой. Шкада, што з агаворанай серыі перадач толькі на першыя тры — пра названых пісьменнікаў — Рахленкі і хапіла. Дамаўляліся мы, што ўзбагаціцца фанатэка радыё яшчэ словам яго пра сяброў па мастацтве — П. С. Малчанава, Г. П. Глебава, пра цікавыя прызабытыя сюжэты з тэатральнага ўчора Беларусі. Ды паласа прасвету ў настроі мінулася, зноў агарнула яго хваравітая туга, непазбыўная, як ён мне пра гэта казаў, з часу, як не стала Лідзіі Іванаўны Ржэцкай, жонкі і душэўнай апоры, — і на працяг пачатага сілы не знайшлося.

Аднак я дужа забег уперад. Раней яшчэ, намнога раней, радыё дало нам з Рахленкам магчымасць рэалізаваць колісь намі задуманае. Я ўжо сказаў, што напісаная мною п'еса пра Судзілоўскага сцэны не ўбачыла. Галоўная тут прычына, вядома, што я ўзяўся, зноў жа паўтараю, не за сваё. Але ў немалаважнай меры тлумачэннем і акалічнасць, што на момант, калі я давёў падзеі п'есы да нейкага лагічнага ладу, у купалаўцаў памянялася мастацкае кіраўніцтва—Леанід Рыгоравіч перастаў быць галоўным рэжысёрам. Новае ж кіраўніцтва, вядома, пачало з таго, што адмовілася ад планаў кіраўніцтва ранейшага.

Ці то адчуваў ён трохі няёмкасць за тое, што так здарылася, ці то вобраз Судзілоўскага не-не ды ажываў у ягоным уяўленні, але праз некалькі гадоў, спаткаўшыся са мной, Рахленка выказаў ідэю ажыццявіць наш няздзейснены намер на радыё. За рэжысуру, сказаў, ён там не ўзяўся б — тэхніка гуказапісу для яго цёмны лес, — а вось цэнтральную ролю ў спектаклі сыграў бы з ахвотай. І, нешта пра героя ўжо ведаючы, здолеў бы пастаноўшчыка кансультаваць, быць яму карысным парадамі.

Не буду ўдавацца ў тое, якім атрымаўся радыёспектакль «Гавайская легенда», што ўсё ж прагучаў у эфіры, дзякуючы зычліваму стаўленню да тэмы радыйных маіх калег і яе энтузіястаў. Не месца і не мне гэта рабіць. Скажу толькі, што камертон задаў спектаклю менавіта Леанід Рыгоравіч і, як і пажадаў, на ролю Судзілоўскага быў запрошаны ён.

Хіба дадам яшчэ, што пры запісе спектакля — а я сядзеў увесь час у апаратнай каля рэжысёра — упершыню ўбачыў я Рахленку такім, пра якога чуў ад тэатральнага люду, а вось бачыць самому да таго не даводзілася. Ён уяўляўся мне ўвасабленнем стрыманасці, далікатнасці, тактоўнасці. Цяпер жа ўбачыў, што можа ён і не стрымацца, і стаць нецярплівым, з'едлівым, куслівым, калі вытыркаліся перад ім невуцтва, нядобрасумленнасць, непрафесійнасць. Як ён даймаў у напружаных абставінах запісу аднаго з маладзейшых артыстаў! Цынік і піжон па натуры, малавыразны, з абмежаванымі прафесійнымі магчымасцямі, той быў яму несімпатычны, і сваёй непрыязнасці Леанід Рыгоравіч не таіў — падколваў слабаздатнага партнёра, падсміхваўся. Аж не стрываў даняты — чмякнуў старонкамі свайго тэксту аб стол з мікрафонам, істэрычна крыкнуў рэжысёру Марыне Дзмітрыеўне Троіцкай, што не можа, адмаўляецца ў такіх умовах запісвацца. Па твары былой купалаўкі Троіцкай прабегла грымаска — маўляў, можна чалавека зразумець, Рахленка гэта ого штучка — і, уздыхнуўшы, яна папрасіла выканаўцаў усё-такі памятаць, што яны знаходзяцца ў студыі...

Звыклы да жыцця ў святле сафітаў, да павышанай людской увагі, да існавання нібы ў сілавым полі пастаяннага току, Рахленка цяжка перажываў на схіле веку адыход ад актыўнай дзейнасці, фізічнае і духоўнае слабенне. Так супала, што я з ім двойчы апынаўся ў адзін час у адной бальніцы, нават у адным аддзяленні. Да мяне забягаў туды кінарэжысёр, сааўтар па дакументальнай стужцы, якая ў нас запускалася ў вытворчасць. І калі я адказаў на пытанне Леаніда Рыгоравіча, што гэта за чалавек да мяне наведваецца, то пачуў якое ж маркотнае:

— Вы працуеце... Працуеце...

І ў старасці заставаўся ён прыгожым, станістым, імпазантным — што было на сэрцы, тое іншае. На вуліцы яго пазнавалі, многія віталіся, незнаёмыя, бывала, праводзілі вачыма. Ён быў з тых, на каго і вышэйшыя ростам глядзяць быццам знізу.

Чалавек Тэатра з вялікай літары, ён прайшоў праз жыццё ў непаўторным уласным абліччы, хоць пераўвасабляўся ў сотні абліччаў, увабраў у свой лёс сотні ўяўленых лёсаў.

Ганаруся, што адзін з гэтых лёсаў яму падказаў.

*Пошукі, знаходкі, версіі*

**Іван ЛАСКОЎ**

# ПЛЕМЯ ПЯЦІ РОДАЎ

## Летапісная літва: сваяцтва і лёс

ЛІТВА... ЛІТВА... Што мне нагадвае гэтае слова? Гэта вельмі своеасаблівае слова. Яно — збіральнае, тыпу «жарства». А народы звычайна завуцца ў множным ліку: рускія, украінцы, літоўцы... Так было і са старажытнымі плямёнамі: паляне, крывічы, радзімічы... Але ёсць і нешта падобнае літве: мардва!

Літва, мардва, Лахва, Масква. Ці ёсць паміж гэтымі словамі сувязь? Паміж «Лахва» і «Масква» — цалкам магчыма. Тое і другое — рэкі. Аб паходжанні назвы «Масква» пішуць час ад часу. Як памятаю, слова гэтае фіна-ўгорскае: «Ва» азначае «вада», рэштку лінгвісты дакладна вытлумачыць не могуць. Значыць, зусім верагодна, што «Лахва» — Лах+вада (ва). А ці можа ўваходзіць слова «вада» ў назву народа?

А чаму б і не? Напрыклад, «людзі вады».

Змалку люблю разглядваць карты. Змалку запамяталася, што недзе на поўначы месціцца цэлы куст рэк, чые назвы канчаюцца на «ва»: Сосьва, Лысьва... А ў Мардовіі? Бяру «Малый атлас СССР» — вялікіх атласаў, на жаль, у нас не выдаецца. Буйнамаштабныя карты лічацца сакрэтнымі. Засакрэчваць у нас умеюць. Знаёмы геолаг расказваў, што засакрэчана нават геафізічная карта СССР, атрыманая ў якасці падарунка ў гады вайны ад... амерыканцаў.

Маштаб «Малога атласа» сапраўды такі малы, што паказаны толькі самыя буйныя рэкі. Згадваю, што маю яшчэ атлас аўтамабільных дарог, чый фармат і адпаведна маштаб удвая большы. Сапраўды, тут рэк паказана куды больш. Але ў Мардовіі з «ва» ўсё адно няма. І ўвогуле іх няма. апрача Масквы, у цэнтры Расіі. Толькі каля Палярнага круга, у Комі АССР, у Пермскай і Свярдлоўскай абласцях знаходжу тое, чаго шукаю.

Лемва, Евва, Айюва, Мойва, Нердва, Елва, Колва, Адзьва і яшчэ дзесяткі падобных. Але Лахвы між іх няма. На вока трапляюць зусім іншыя назвы: Ула, Уса, Сула, Тур'я, Рутка... Бяру даведнік да БелСЭ. Так, не памыляюся! Ёсць і ў нас такія. Назваў Ула тры (рака, возера і гарадскі пасёлак), Уса — таксама тры (усе — рэкі), Тур'я — чатыры (тры рэкі і вёска); ёсць і рака Сула, і рака Рутка. І яшчэ ёсць назва Уша, блізкая да «Уса»: іх пяць — тры рэкі і дзве вёскі. Што азначаюць гэтыя назвы, я яшчэ не ведаю, але ж ці не зразумела, што Усу нельга звязваць з вусамі, Ушу — з вушамі, Улу разглядаць як варыяцыю імя Улляна, а Сулу выводзіць ад рускага «сулить»? Дый Тур'я ці мае адносіны да тура, калі такую самую назву я знайшоў на поўначы Заходняй Сібіры, дзе пра тураў і не чулі?

Але ўсё гэта — спадарожнае. Галоўнае для мяне — назвы з «ва», тым кавалачкам чалавечай мовы, што ўваходзіць у слова «літва». Ці ёсць у нас на Беларусі яшчэ рэкі, назвы якіх канчаюцца гэтым «ва»?

Чытаю спісы рэк па абласцях у пятым томе «Энцыклапедыі прыроды Беларусі». Ёсць! Выпісваю іх асобна па кожнай вобласці. І вось што маю:

Брэсцкая вобласць. Зальвянка (170 км. Выпісваю таму, што яе першапачатковая назва — безумоўна, Зэльва, як завецца мястэчка, што стаіць на гэтай рацэ), Лахазва (29), Літкава (14), Маства (80), Пульва (54), Сваротва (35).

Віцебская вобласць. Дзіва (29), Маргва (36), Прорва (12).

Гомельская вобласць. Гніва (20), Мытва (58), Ражава (20).

Гродзенская вобласць. Валова (39), Восава (14), Дзітва (93), Зальвянка (170), Ізва (26), Кернава (19), Клява (56), Нарва (24), Паніква (16), Сасва (25), Сваротва (35).

Магілёўская вобласць. Грава (14), Езва (23), Клява (80), Лахва (90), Лахвіца (19). Выпісваю таму, што першапачатковая назва — тая сама Лахва).

Мінская вобласць. Клява (80), Кляваца (31. Ад «Клява»), Лонва (28), Наква (14), Рова (29), Талва (10), Тонва (13), Удава (13).

Падлічваю агульную колькасць. 36! Потым заўважаю, што тры ракі палічыў двойчы: Зальвянка цячэ па Брэсцкай і Гродзенскай абласцях, Сваротва — таксама, Клява — па Магілёўскай і Мінскай. Значыць, 33. Нямала!

Сёй-той чытач, відавочна, зазначыць, што я дарма ўключыў у свой спіс такія назвы, як Дзіва, Гніва, Валова, Восава, Удава. Маўляў, яны і так цалкам зразумелыя, чаго іх шукаць у Комі? Не спяшайся, чытач, не спяшайся! Давай падумаем. Напрыклад, «Дзіва». «Дзіва» ў сэнсе «цуд» — сярэдняга роду (яно), рэкі на нашай мове словамі сярэдняга роду не называлі! «Валова»... Няўжо гэтая рака (39 км) належыць валу? Або «Удава». Чаму «ўдава»?

Зразумеласць гэтых назваў вонкавая, уяўная, выпадковая. Калі ж адняць «ва», то яны ўвогуле робяцца незразумелымі: што такое «дзі»? Што такое «ўда»? Вуда? Яшчэ адна лухта. А тым часам ёсць у Бурацкай рэспубліцы рака Уда, на якой якраз і стаіць Улан-Удэ. Уда-вада (Уда-рака) — вось што такое Удава, а не жанчына, што страціла мужа.

Перачытаўшы свой спіс і засвоіўшы, вяртаюся да картаў Комі АССР, Пермскай, Свярдлоўскай і Архангельскай абласцей. Як сапёр з мінашукальнікам, рухаюся з лупай па карце, вышукваючы на чужых землях назвы з майго спіса. І — не знаходжу... Аніводнай! Ці я сляпы, ці праўда мае «ва» не маюць адносін да «ва» фіна-ўгорскіх?

Ёсць адзін спосаб праверыць гэта: знайсці слоўнік мовы, на якой вада — «ва».

Рэспубліканская якуцкая бібліятэка імя А. С. Пушкіна, дзе я звычайна папаўняю свае веды, стаіць якраз насупраць майго дома. Нават узімку, калі мароз не надта за сорак, хаджу сюды без паліто, каб не стаяць у чарзе да распранальні. З вокнаў краязнаўчага аддзела, дзе пераважна я сяджу, відаць вокны мае кватэры. Але, паглыбляючыся ў стагоддзі, я іх не бачу.

Як рэспубліканская, бібліятэка атрымоўвае абавязковыя экземпляры ўсіх кніг, што выходзяць па краіне на рускай мове. Але, на жаль, агульная для ўсіх айчынных бібліятэк бяда не мінула і яе. Кнігі прыходзяць штодзень, а памяшканні не пашыраюцца з 1972 года. Для таго, каб паставіць новыя выданні, з паліц здымаюць старыя, асабліва тыя, што не маюць прамых адносін да Якуціі, звязваюць і адносяць у склад. З кожным годам такім чынам робіцца недаступнай для чытачоў усё большая колькасць выданняў мінулых дзесяцігоддзяў. Спачатку — дваццатых гадоў, потым — трыццатых, цяпер дайшла чарга да саракавых. Ды яшчэ з-за цеснаты вельмі няпоўны агульнадаступны каталог. Кніга можа мецца ў бібліятэцы, а ў каталогу яе не знойдзеш, а калі і знойдзеш, атрымаеш не заўжды. Таму, калі я ішоў у «пушкінку», мяне, можна сказаць, грыз непакой: ці змагу здабыць тое, што мне патрэбна.

Так, па сутнасці, і выйшла. У бібліятэцы не аказалася ні мардоўскіх, ні карэльскіх, ні эстонскіх, ні літоўскіх слоўнікаў. Усяго ўдалося атрымаць марыйска-рускі, руска-ўдмурцкі і комі-пярмяцка-рускі.

У марыйска-рускім слоўніку «ва» не аказалася, вада ў марыйцаў гучыць як «вюд». Руска-ўдмурцкі слоўнік перакладае ваду словам «вы». Як кажуць, цёпла, але не горача. І вось мая апошняя надзея — комі-пярмяцка-рускі слоўнік. Калі «ва» няма і ў ім, прыйдзецца справу адкласці і здабываць іншыя фіна-ўгорскія слоўнікі. У першую чаргу комі-зыранскія (комі-зыране — асноўнае насельніцтва Комі АССР, комі-пермякі — Комі-Пярмяцкай нацыянальнай акругі, што ўваходзіць у склад Пермскай вобласці). Здабываць праз МБА, а гэта — месяцы і месяцы...

Са зразумелым хваляваннем гартаю кнігу і знаходжу: «**Ва** I вода, водный.. **зэр ва** дождевая вода... **ключ ва** ключевая вода... **ва кора** безвкусный, как вода... **ва** III река, речной».

Як абухом стукнуты, узіраюся ў старонку. Няўжо так проста і лёгка? **Зэр ва** — гэта ж Зэльва! Значыць, «Зэльва» — дажджавая вада? «Ва кора» — ці ж гэта не Вячора? Ёсць такая рака ў Любанскім раёне. Яе ўжо амаль паспелі перахрысціць у Вячору, ужо і БелСЭ спачатку дае «Вячэра», а «Вячора» — у дужках...

Трохі ніжэй на той самай старонцы кідаецца ў вочы: «**вавьёр** 1) бродяга, 2) бездельник». Дык вось адкуль узялася вавёрка ў назве ракі, што цячэ ў Лідскім раёне! «Вавёрка» — гэта «бадзяга» (вавьёр)+«ка». Што такое «ка», я пакуль не ведаю, але ўсё адно бадзяга-рака падабаецца больш, чым рака-вавёрка.

Яшчэ ніжэй. «**Вож** III приток реки». Адчуванне слова маё абвастраецца, і я разумею раптам, што «вож» і «Сож» — адно і тое ж, што гэта дыялектныя варыянты аднаго слова. Вёска мая, Беразнякі, стаіць за 12 кіламетраў ад Сажа. Там была прыстань, ад якой мы ездзілі на параходах, а потым на цеплаходах у Гомель. Колькі падлеткам даводзілася стаяць над плынню Сажа і думаць, чаму ён так завецца! І вось, на схіле год, нарэшце ведаю гэта.

Знайду я ключ да «літва» ў гэтым слоўніку або не знайду — для мяне ўжо не мае вялікага значэння: усё адно цікава. І я знаёмлюся з ім не ўпохапкі: чытаю і прадмову, і граматычны нарыс, што змешчаны ў заключэнне.

КОМІ - ПЯРМЯЦКАЯ МОВА — з групы фіна-ўгорскіх, падгрупы пермскіх. У падгрупу, апрача яе, уваходзяць яшчэ комі-зыранская і ўдмурцкая мовы.

Слоўнік змяшчае 27 тысяч слоў. Выдадзены ў 1985 годзе. Калі б мая здагадка завітала да мяне пяць гадоў назад, я не змог бы яе праверыць. Склалі слоўнік Раіса Міхайлаўна Баталава, супрацоўніца Інстытута мовазнаўства АН СССР, і Антаніна Сямёнаўна Крывашчокава-Гантман, дацэнт Пермскага педінстытута. Не ведаю, самі яны комі-пярмячкі або з тых адданых рускіх жанчын, што так шмат далі для станаўлення культур малалікіх народаў Урала, Сібіры і Далёкага Усходу.

У 1979 г. комі-пермякоў налічвалася 153 тысячы чалавек (комі-зыранаў — 322 тысячы). Сёння яны жывуць пераважна ў Комі-Пярмяцкай нацыянальнай акрузе (33 тыс. кв. км). А былі часы, калі комі-пермякі займалі такую значную тэрыторыю, што яна называлася Перм'ю Вялікай. Але калі ў XV стагоддзі пермякі былі далучаныя да Маскоўскай дзяржавы, арэал іх стаў хутка змяншацца, а сам народ — асімілявацца. Пра ўсё гэта я чытаю ў прадмове. «Постепенно значительная часть коми-пермяков смешалась с русскими, оставив на обрусевшей территории свои названия рек (Обва, Косьва, Сива, Лосьва и др.), населенных пунктов (Чердынь, Вильгорт, Камгорт, Майкар и др.)».

Трохі пра комі-пярмяцкую мову. Гэта, мабыць, нароўні з комі-зыранскай, найболей чыстая з усіх фіна-ўгорскіх моў. Доўгі час пермякі жылі ізалявана. Сюды не дайшлі татары, што пакінулі моцны след на мардоўскай, марыйскай мовах.

Гукавы склад, як ні дзіўна, нагадвае беларускі. Ёсць гук «дз», заўсёды мяккі. Вядомы даследчык пермскіх моў В. І. Лыткін у артыкуле «Коми-пермяцкий язык» (зб.: «Языки народов СССР, т. 3. М., 1966) так і піша, што гэты гук комі-пярмяцкай мовы блізкі да беларускага «**дз**» у слове «дзень». Ёсць і гук «**дж**», заўсёды цвёрды — таксама, як у нас. У сваёй іншай працы «Древнепермский язык» (М., 1952, с. 23) В. І. Лыткін паведамляе: «Древнепермское **в**, в особенности перед гласными непереднего ряда, акустически близко стояло к неслоговому **у**» (гэта значыць, да **ў**). Такая асаблівасць захоўваецца і ў сучасных комі мовах. Афрыката «**тш**» у комі-пярмяцкай мове адпавядае нашаму цвёрдаму «**ч**». Такім чынам, атрымоўваецца, што амаль усе гукавыя адрозненні беларускай мовы ад рускай узяты са старажытнай пермскай мовы. Гукаў, якіх няма ў рускай і беларускай мовах, а ў комі-пярмяцкай мове ёсць, практычна адзін «ӧ», па гучанні, як піша В. І. Лыткін, блізкі да англійскага галоснага ў слове «гёр'с». (Гэты гук, як убачыць у далейшым чытач, вельмі мне дапамог, калі я звярнуў на яго належную ўвагу).

У граматычным жа сэнсе гэтая мова адрозніваецца ад нашай мовы значна. Тут няма катэгорыі граматычнага роду: ролю прыметнікаў звычайна адыгрываюць назоўнікі, калі іх ставяць перад іншымі назоўнікамі; пры гэтым яны не скланяюцца. Назоўнікі і займеннікі скланяюцца, склонаў — 17. Развітая сістэма дзеяслова.

Першасныя словы (вада, зямля, дрэва, агонь і г. д., асновы дзеясловаў) аднаскладовыя. Калі ў назоўніку два або болей склады без суфіксаў — гэта ўжо складанае слова. Складанае часта дае зусім новы сэнс. Напрыклад, «ягӧд» (ад гэтага слова, мусіць, наша «ягада») складаецца з дзвюх частак: «яг» — «малады сасоннік» і «ӧд» — «гарачыня». Злучальныя галосныя ўжываюцца, здаецца, толькі тады, калі адбываецца цяжкі для вымаўлення збег зычных. Можна сказаць, ад комі-пярмяцкай мовы так і патыхае старажытнасцю, тым таемным часам, калі чалавек толькі вучыўся гаварыць. Як захаваліся да нашага часу гэтыя «ва», «му» (зямля), «пу» (дрэва), «бі» (агонь)? Слава народу, што іх пранёс праз тысячагоддзі, каб мы маглі зразумець, з чаго пачыналася мова!

**Шмат эпох назад былі названы рэкі. Гэта словы яшчэ больш архаічнага стану фіна-ўгорскіх моў, чым той, у якім знаходзіцца комі-пярмяцкая мова сёння. Што нам дае разуменне гэтага практычна? Што ў гэтых назвах кожны склад, нават такія, як «ю», «у», «я», «е», «і», «о» ўяўляюць сабой асобнае слова. Тым у першую чаргу і адрозніваюцца фіна-ўгорскія назвы ад славянскіх і балцкіх.**

І вось я спрабую адгадаць першы склад у назвах майго спіса, дзе другі («ва») мне ўжо вядомы.

**Дзіва** «Дзиб — глухой, густой лес». Такім чынам, можна дапусціць, што першапачаткова было «Дзібва». «б» і «в» — блізкія гукі, таму непазбежна павінны былі зліцца, тым болей што «дзібва» — незразумела, а «дзіва» — зразумела цалкам.

**Прорва.** «Прорва — топкое место». У такім значэнні, што болей адпавядае невялікай рэчцы (12 км), наша «прорва» не ўжываецца. Падобна, што наша «прорва» — запазычанне з фіна-ўгорскіх моў.

**Мытва.** «Мыт — понос».

**Ізва.** «Из — камень».

**Нарва.** «Нар — нары». Гэта, можа, і не пераканаўча, але назва безумоўна фіна-ўгорская. Ёсць Нарва на мяжы РСФСР і Эстонскай ССР.

**Езва.** «Езь — язь».

**Лахва.** Думаецца, раней называлася «Логва», дзе «лог» азначала лог (слова, відавочна, намі запазычана, у комі-пярмяцкай мове яно ёсць).

**Лонва.** «Лонь — тихий».

**Наква.** «Нок — сметана».

**Тонва.** «Тон-тон - обледеневший, мёрзлый».

**Пульва.** «Пуль-паль (изобраз.): пуль-паль керны — плескаться водой» (літаральна «рабіць пуль-паль»).

Вось і ўсе пакуль што поспехі ў разгадванні назваў з «ва» тых рэк, што цякуць на Беларусі.

Мала?

Я думаю, дастаткова, каб пераканацца, што з дапамогай комі-пярмяцкай мовы яны **разгадваюцца**, і што, значыць, анііякія яны не балцкія, а самыя сапраўдныя фіна-ўгорскія, не проста фіна-ўгорскія, а менавіта **пермскія**. Мова літвы была з той жа падгрупы моў, што і сучасная комі-пярмяцкая мова.

«Але чаму «мова літвы»? — спытае прыдзірлівы чытач. — Ну, добра, ты давёў, што назвы з «ва (прынамсі, частка іх) — фіна-ўгорскія. Але хто сказаў, што гэтыя назвы былі дадзены літвой? Чаму ты так вырашыў? Толькі таму, што і назва «літва» канчаецца на «ва»?

Не толькі і не столькі таму. Калі б я меў толькі такі доказ, то, можа, і не пачынаў бы гаворкі.

КАЛІ Я СКАЖУ, што спачатку высвятляў этымалогію гідронімаў, а за назву «літва» ўзяўся толькі пасля іх, чытач, вядома ж, мне не паверыць. І будзе мець рацыю, бо які нармальны чалавек на маім месцы стаў бы скрупулёзна даследаваць другараднае, бачачы, што ён на правільным шляху да галоўнага? Слова «літ» я пайшоў шукаць адразу, як толькі прачытаў і перачытаў старонку з «ва». І на пачатку «літ» я не знайшоў.

Расчараваны, я пачаў гартаць слоўнік, шукаючы патрэбныя словы: сонца, зямля, агонь, чалавек. Знайшоў: чалавек — «морт». А я думаў, што «літва» — «людзі вады». Выходзіць, не. Чалавек — «морт», людзі — «йоз». Цікава, чаму гэта ў розных мовах людзі — нешта іншае, чым «чалавекі»? Вось і ў якуцкай мове чалавек — «кігі», людзі — «джон».

«Людзі вады» — гэта было б «йозва», чалавек вады — «морт-ва». Чакай... «Морт-ва» — гэта ж мардва!

(Працяг на стар. 14—15).

# ПЛЕМЯ ПЯЦІ РОДАЎ

**(Пачатак на стар. 12—13).**

«Морт» уваходзіць і ў «удмурт». То што ж, «чалавек» у назве народа — абавязковае?

І раптам я згадваю, што ў прадмове штосьці сказана наконт «л» у комі-пярмяцкай мове, быццам бы «л» з чымсьці чаргуецца... Так і ёсць! «В коми-пермяцком языке два наречия: северное и южное. (...) Продолжает оставаться главное отличие — употребление фонем «л» и «в». Южные говоры... утратили фонему «л». Вместо нее в середине слова перед гласными и согласными, а также в конце слова появляется «в».

Значыць, «літ» — усё адно, што «віт»? Праверым, ці ёсць «віт»?

Ёсць. «Віт» азначае «пяць». Лік «пяць», толькі і ўсяго.

Сяджу збянтэжаны, думаю. Што ж гэта такое ў мяне атрымоўваецца? «Літва» — «пяць водаў». Як гэта — «пяць водаў»?

Хвіліначку... «Ва» — не толькі «вада». Гэта яшчэ і «рака». «Пяць рэк» — гэта куды лепш! Племя пяці рэк! Якіх? Вядома, самых вялікіх: Дняпро, Прыпяць, Дзвіна, Нёман. Пятая — Бярэзіна. Ва ўсе гэтыя рэкі ўпадаюць мае «ва». «Ва» на Беларусі няма толькі на ўсход ад Дняпра, таму « з пяці рэк» выключаецца Сож.

І яшчэ, як сполах маланкі: «віт» — «Вітаўт» азначае пяты.

Што «пяты»? Гэта трэба знайсці. Але ж называлі ў славян «Пятком» пятае дзіця ў сям'і. З таго ж шэрагу імёны Траццяк, Чацвяртак, Шостак, Можа, «Вітаўт» —пяты+дзіця, пяты+сын. Гляджу «овт» — у летапісах жа «Витовт». «Овт» не знаходжу. Нічога, не ўсё адразу... Віцень, «Витень» —таксама «пяты» (віт). Што такое «ень»? Шукаю. Няма! Ёсць «ен» — «бог». «Пяты бог»? Чаму? Імкнуся зразумець логіку старажытных...

Заўважаю, што маю ключ яшчэ да двух іменаў: «морт» — «чалавек». **Жыгімонт** — Жыгі+монт, Скірмунт — Скір+ +мунт. І «монт», і «мунт» — тое самае, што «морт». Тым болей, што па-ўдмурцку чалавек — «мурд». «Чалавек» як частка імя падыходзіць цалкам. Застаецца даведацца, што такое «жыгі» і «скір».

«Жыга» па комі-пярмяцку «страх», «страшны». **Жыгімонт** — Страшны Чалавек!

«Скӧр» па-комі-пярмяцку «злы, сярдзіты». Скірмунт — Злы Чалавек або Сярдзіты Чалавек!

Сам сабе не магу паверыць, што так лёгка гэта разблытваецца. Зрэшты, не ўсё...

Некалькі дзён трачу на **Міндоўга.** «Довгыны — ударить, двинуть». «Довг» — корань гэтага дзеяслова і яго загадная форма. Калі паставіць «ударыць, сунуць» у шэраг «Страшны Чалавек, Злы Чалавек», то яно нібыта і не выбіваецца. А вось «мін» не магу знайсці. Потым згадваю, што імя Міндоўг вядома ў двух варыянтах, другі варыянт — **Мендоўг.** Слова «мен» таксама няма. Але ёсць «ме» — «я», і аказваецца, адной са склонавых формаў, менавіта формай вінавальнага склону з'яўляецца «мен». Значыць, Мендоўг — «мяне ўдарыў», «той, хто мне сунуў», «мяне ўдар». Ну што ж, відаць, такія імёны хлопчыкам з роду вояў даваліся *невыпадкова* — каб ворагі баяліся. Так разважаю я...

Без намаганняў перакладаю **Радзівіла,** толькі пераклад не магу зразумець. «Радз 1 (мат, плетенка) подстилка в санях из прутьев, дранок; 2 (деревянный крест, деревянная рама под сито для процеживания кваса)». **«Виль** новый». Такім чынам, атрымліваецца нейкая «Новая Пляценка» ці «Новая Рама», «Новы Крыж Для Сіта». Або, калі ўлічыць, што першае слова стаіць у пазіцыі прыметніка — «Плеценая Навіна», «Рамная Навіна», «Крыжавая Навіна». Можа, апошняе — самае дакладнае, у сэнсе новахрышчоны? Ці нейкая мянушка? Дарэчы, здаецца, Радзівіл — не імя, дадзенае пры нараджэнні, яго нібыта дарослага ашчаслівілі такім імем.

Неяк увечары, гартаючы БелСЭ, знаходжу яшчэ адно старажытнае літоўскае імя — **Вігунт.** Гэта мяне бянтэжыць. Я ўжо прывык, што Вітаўт *і* Віцень — «пятыя», і раптам узнікае імя, якое пачынаецца з «Ві», але за гэтым «Ві» не ідзе «т». Здагадваюся, што зрабіў памылку, і на самай справе гэтыя імёны трэба дзяліць на часткі не Вит+овт и Вит+ень, а аддзяляючы толькі «Ві»: Ви+ +товт, Ви+тень, Ви+гунт. Трэба тэрмінова гэта праверыць, а *«пушкінка» ўжо зачынена!*

Раптам мне здаецца, што «Витень» мне штосьці нагадвае. Нібыта ў рускай мове ёсць слова «витютень», азначае штосьці жывое: ці то звярка, ці то птушку (аказалася — голуб). Бяру слоўнік Даля: можа, побач з «витютень» агледжу и «витень»? І вось чытаю ў гняздзе «вить»: **«витень** влгд. арх. плеть, кнут, бич, арапник, ременница, погонялка, пуга». Ну што ж, па сэнсе для княскага імя, імя воя — падыходзіць, але ўжо занадта яўная сувязь паміж гэтым бізуном і словам «вить», гэты «витень» яўна ўтвораны ад рускага слова. Я ўжо гатовы паставіць Даля на паліцу, аж заўважаю далей, больш дробным шрыфтам яшчэ раз «витень»! «Витель сиб. нож на ремне и на ратовище, которым бьют на лыжах сохатого, лося». Вось гэта ўдача! Тут аніяк не скажаш, што гэта «витень» ад рускага «вить»? Нож на рамяні! Што ж тут *нож, што рэмень?* Улічваючы, што «ви» ўваходзіць у тры імені, мабыць, «ві—нож», бо з якой нагоды такая павага аддавалася б рэменю? Гэта пацвярджае зноў Даль: **«гантай** нвг. гантан ряз. гайтан шнурок, особ. на крест». Ві+гунт — Нож На Шнурку. «Товт» у Даля знайсці не магу, Вітаўт застаўся нявытлумачаным, але і Віценя з Вігунтам дастаткова, каб палепшыць настрой.

Назаўтра іду ў бібліятэку і разгортваю слоўнік ва ўпэўненасці, што «ві» — па-комі-пярмяцку «нож». Аказалася... «масла». Ледзь не пакрыўджаны, шукаю «тень». Знаходжу «тӧн»: «учора». Ві+тӧн — учарашняе масла. Нішто сабе княскае імя...

І тут мяне працінае здагадка, што я да гэтага часу не ўсё разумеў у механізме надання іменаў. Калі чалавеку даецца імя? Пры нараджэнні. Што ў ім фіксуецца? Тое ўражанне, якое зрабіў на прысутных нованароджаны. «Учарашняе Масла» — значыць, ён колерам скуры падобны да такога масла. Колер учарашняга масла, дарэчы, прыемны, яно паспявае крыху пажаўцець; тым самым дзіця пахвалілі. «Мендоўг» — «Той, Хто Мне Сунуў»: дзіця сунула ножкай, магчыма, у твар, таму, хто над ім нахіліўся. «Страшны Чалавек», «Сярдзіты Чалавек» — гэта таксама магло быць сказана пры нараджэнні.

Расшыфраваў нанова Віценя, затое павіс **Вігунт.** Можа, і праўда — Нож На Шнурку? Наўрад. Знаходжу: **«Гӧнтӧм»** — голый, без шерсти, без перьев». Відаць, нарадзіўся без валасоў на галаве. А можа, і «гӧнтӧм» тут ні пры чым... З Вітаўтам такая гісторыя. Слізгануў позіркам ніжэй ад «ві» (масла) праз «віт» (пяць) і раптам... «вітӧт»! Вітаўт значыць проста «пяты». Але ёсць яшчэ і «ӧвт — мах, взмах». «Пяты Узмах»? Што гэта азначае, хай ламае галаву той, у каго яна большая.

У Л. Дайнекі, калі не памыляюся, ёсць развražанне, што азначае імя **Войшалк,** дзе пісьменнік зыходзіць са старажытнага беларускага слова «вой» (*воін*) і *«шал»*. Комі-пярмяцкі слоўнік дае такія значэнні. **«Вой** дикий, неприрученный». **«Шорк** (изобраз.) быстро: с шумом входить». Такім чынам, у гэтым імені таксама апісваецца першае ўражанне ад новароджанага: ён «увайшоў» «хутка, з шумам» і не даючыся ў рукі («дзікі, не прыручаны»).

Мы цяпер пішам **Альгерд,** а ў летапісах ён Ольгерд. **«Оль** согра «березово-еловый лес на заболоченных кочковатых низинах)». **«Гӧрд** красный». Відавочна, адлюстравана ізноў-такі ўражанне ад скуры новароджанага (колеру восеньскага лесу). Дарэчы, з «оль» («ол») маем і гідронімы: воз. Олтуш (Брэсцкая вобл.), рр. Ольніца і Ольса (Магілёўская вобл., тыя ж рэкі цякуць і ў Мінскай вобласці). Але калі ўлічыць, што ў пермскіх мовах няма і не было мяжы паміж «л» і «в», то «Ольгерд» можна прачытаць як «Овгерд», а гэта ўжо трохі іншае: «ов» па-комі-пярмяцку — корань слова «овны» (жыць), і «Овгерд» расшыфроўваецца як «жывая чырвань», што здаецца больш верагодным.

**Кейстут** да канца не зразуметы. Першая частка імя (кыйс) — корань дзеяслова «паляваць», над другой часткай трэба яшчэ гарбець.

Мільганула думка праверыць само слова **«кунігас».** Разумею, што гэта ад нямецкага **«кёніг»,** але раптам? І вось што выявілася. «Куніга» я, зразумела, у комі-пярмяцкім слоўніку не знайшоў (тут каралёў спрадвеку не было), але затое «ас», якое здавалася балта-літоўскім канчаткам (Альгірдас, Гедымінас — так вось пішуцца сёння ў Літве Альгерд і Гедымін), аказалася комі-пярмяцкім словам. Азначае яно «свой». «Кунігас» — «свой кёніг». Здаецца, лагічна.

Імя **Ягайла** складаецца з трох частак. «Ла» — як памятаем, варыянт «ва», «ай» — «бацька», «яг» — «малады сасоннік» (памятаеце ягӧд?) Такім чынам, перакласці можна так: «Малады сасоннік, бацькоўская вада».

**Скіргайла.** «Скір» — як у «Скірмунт» («злы, сярдзіты»), «айла» — «бацькоўская вада». Праўда, тут аказваецца лішняе «г», але, можа, першапачаткова імя гучала як «Скірягайла»? Тады замест «г» з'яўляецца паўнаважны «яг» — малады сасоннік.

**Свідрыгайла.** Гэтае імя дзеліцца на чатыры часткі: Сві+ +дрыг+ай+ла. «Сві» здаецца коранем дзеяслова **«свигнытны** быстро перепрыгнуть, сигануть». Ужыванне «свіг» можна растлумачыць, тым, што дзіця нарадзілася неяк нязвычна хутка. «Дрыг», бадай што, — фанетычны варыянт комі-пярмяцкага «дрӧг (изобр) вздоргнуть». Можа, хто-небудзь скажа, *што* гэта падобна да запазычання з рускай мовы, але чаму не магло не быць такога запазычання і ў літоўска-пермскай мове? Нагадаю, што ў нашай мове ёсць слова «дрыгва» — з тым жа самым коранем, але ў літоўска-пермскім афармленні (дрыг+ва). Зрэшты, я не філолаг (а тут і філолагам быць мала, трэба быць глыбокім мовазнаўцам), катэгарычна сцвярджаць не буду.

Што такое «бацькоўская вада»? Перш-наперш прыходзіць да галавы выраз «як дзве кроплі вады», г. зн. «падобны да бацькі». Але, здаецца, такая выснова была б занадта прымітыўнай.

Ці была для старажытных вада проста вадой, як для нас сёння? «Ва» па-комі-пярмяцку не толькі «вада» нават і цяпер. Гэта і «сок», і «рака». Але ж адначасова ў гэтай мове ёсць і слова «ю», што таксама «рака». Прычым гэтыя словы не замяняюць адно другое ў назвах рэк, а спалучаюцца: Юва, Юла (дыялектныя варыянты той самай назвы — Ува, Ула, Уса, Уша, Оша, Ока, Яна і інш.). **Юва** з сучаснай комі-пярмяцкай мовы перакладаецца «рачная вада». Але навошта было б старажытным людзям вось такім чынам называць шматлікія рэкі? Нелагічнасць назвы прыводзіць да думкі, што мы тут у чымсьці памыляемся. У чым жа? Ды, відавочна, у перакладзе «ва». Незразумела? Я хачу сказаць, што першабытныя ўгра-фіны ўкладвалі ў «ва» іншы сэнс, чым сённяшнія комі-пермякі.

Чым была вада для старажытных? Не толькі вадкасцю, якой можна напіцца і памыць твар. У старажытнай натур-філасофіі вада — адзін з асноўных элементаў прыроды, адно з яе першарэчываў. Што было гэтымі першарэчывамі ва ўяўленні старажытных? У кітайцаў — вада, агонь, зямля, дрэва, метал; у грэкаў — зямля, вада, паветра, агонь. І ў той, і ў другой сістэме першаэлементаў вада несумненна сімвалізуе сабой не вадкасць, а **жыццё,** *якое без вады немагчыма.* Так успрымалі свет не толькі старажытныя кітайцы і грэкі. Коранем комі-пярмяцкага слова «овны» (жыць) з'яўляецца «ов» — назва ракі Об. «Жыве!» — прашаптаў аднойчы дзікун, ступіўшы на бераг вялізнай, як мора, ракі... А як прамінуць тое, што ёсць яшчэ і назва Обва? Як яе перакласці: жывая вада? Не! Я думаю, у назвах рэк «ва» перакладаць не трэба. Обва «жывая ва», Юва— «рачная ва», Зэльва—«дажджавая ва», дзе «ва» — першасная стыхія, аснова жыцця. Тады нам стане больш зразумелай і былая назва хантаў і мансі **югра,** дзе «юг — блеск, сияние; юг», а «ра» — фанетычны варыянт усё таго ж «ва» (нагадаю, што *першая вядомая назва* Волгі — Ра). Не «бліскучая вада» або «паўднёвая вада», а «паўднёвая ва» — так трэба перакладаць гэтае найменне, дзе «ва» — субстанцыя чалавечага існення.

І вяртаючыся да слова «мардва», павінен прызнаць, што пераклад «людзі вады» — недакладны, бо, па-першае, «морт» — не «людзі», а «чалавек», каб было «людзі», дык было б «йозва»; па-другое, назоўнік, стаўшы перад назоўнікам, ператвараецца ў прыметнік, і, такім чынам, літаральны пераклад слова «мардва» будзе не «людзі вады», а «чалавечая ва», што знаходзіцца ў адным шэрагу слоў «рачная ва», «дажджавая ва», «жывая ва». У гэтым шэрагу і «бацькоўская ва»—субстанцыя жыцця, што перадаецца ад бацькі да дзіцяці.

Што «ва» было азначэннем такой субстанцыі, сведчыць і адсутнасць для азначэння жыцця такога ж кароткага, першаснага слова, як «ва», «пу», «бі», «ві» ў комі-пярмяцкай мове. Цяпер «жыццё» па-комі-пярмяцку «олом»: як сказана ў слоўніку, гэтае слова ўтворана ад «овны» (жыць).

Вернемся да «літва». Як жа груба я падышоў да гэтага слова, пераклаўшы яго «пяць рэк»! «Пяць ва». Што ж тут значыць «ва»? «Пяць жыццяў»? Ды не. Думаецца, прасцей: «пяць родаў». Пяць вялікіх разгалінаваных сем'яў — вось што, відаць, уяўляла сабой літва.

ДЗЕ Ж ЯНА ЖЫЛА? М. Ермаловіч вызначае яе арэалам верхняе Панямонне. Гэта пацвярджаецца і рэкамі. Менавіта на гэтыя мясціны прыпадае нібы згушчэнне рэк з «ва». Калі ўсяго на Беларусі такіх рэк 33, то 11 з іх цячэ па Гродзенскай вобласці. Пры гэтым у Лідскім раёне іх тры, Навагрудскім — тры, Ашмянскім — тры, Воранаўскім — дзве, Зэльвенскім — дзве; ёсць у Дзятлаўскім, Стаўбцоўскім, што мяжуе з Гродзеншчынай (некалькі рэк цякуць па двух і больш раёнах, таму сумарная колькасць выглядае больш фактычнай). Я думаю, гэта таксама можна браць пад увагу.

Але не магу пагадзіцца, што землі літвы з усіх бакоў былі аточаны землямі нашых продкаў. Арэал літвы, памойму, заходзіў і на тэрыторыю сучаснай Літвы, дзе літва межавала з аўкштайтамі, а мясцінамі, магчыма, і са жмуддзю.

На гэта, па-першае, паказвае тапаніміка. На памежжы з Літвой нямала фіна-ўгорскіх назваў, у тым ліку назваў населеных пунктаў, што шматзначна. Назва «Ашмяны» ідзе ад «ош», што па-комі-пярмяцку «мядзведзь» («ошма» — «мядзведжая ва». Рака з такой назвай маецца ў Горкаўскай вобласці). Горад быў названы людзьмі, якія ведалі літоўска-пермскую мову, на што паказвае герб Ашмянаў — мядзведзь, што стаў на дыбкі. Назва «Іўе» расшыфроўваецца як «выток ракі». У тым жа Іўеўскім раёне ёсць г. п. Юрацішкі, назва якога, магчыма, ідзе ад «Ю ра» — таго сама, што і «ю ва». У Астравецкім раёне маюцца Трокенікі; назва ідзе ад «трок»—што азначае «трок», скажу крыху пазней. У Смаргонскім раёне фіна-ўгорскія назвы населеных пунктаў: **Крэва** (+ва); **Сырмеж** (сыр — II бахрома; меж I дуга на бороне, II баран); **Жодзішкі** (жодза йов кислое молоко; йов молоко); **Войстам** (характэрны канчатак «-там» — «без»; «лыстом — без хвои»); **Кушляны** (куш голый, лысый); **Ардашы «ар** гольян» (рыба). «Да», згодна з назіраннямі, тое сама, што «ва». На тэрыторыі Літвы таксама ёсць фіна-ўгорскія назвы. На жаль, не маю ні падрабязнай карты Віленшчыны, ні спісу яе тапонімаў (шмат якіх, дарэчы, скажона сучаснай «летувізацыяй»). Але магу сказаць, што фінаўгорскімі з'яўляюцца назвы сталіц Вялікага княства Літоўскага — Трокаў і Вільні. «Трок» па-комі-пярмяцку выяўнае: **«трок изобразит.** скок, прыг-скок» — такая назва вельмі падыходзіць да невялікай гарэзлівай рачулкі (ад гэтага «трок» і Трокенікі). «Вільня» — ад ракі Вільня, што ўпадае ў Вілію. «Вільня» азначае «новая ва» (я ўжо гаварыў, што «віль» — новы). «Вілія» — «новая я», дзе «я» — тое самае, што «ю» — рака. І каб ужо не было ніякіх сумненняў, прашу параўнаць назву «Вільня» з комі-пярмяцкай назвай Вільгорт, што ў перакладзе азначае «новы дом», БелСЭ піша: «На думку некаторых гісторыкаў, Вільнюс да 12 ст. называўся Крывым горадам». Думаю, што «Крывым горадам» да 12 ст. Вільня называцца не магла, відавочна, гэта скажэнне назвы «Крэва».

Па-другое. Справа не толькі ў назвах — у прыватнасці, тых жа Трокаў і Вільні. Тое, што менавіта на Віленшчыне былі ўладжаны дзве сталіцы Вялікага княства Літоўскага, гаворыць за тое, што **гэтая зямля была для літвы сваёй.** Бо навошта было ставіць сталіцу пасярод чужога племя? Родавым жа гняздом літоўскіх князёў, лічу, было Крэва. Іначай навошта б тут будаваўся замак, на пэўны час пераносілася сталіца, чаму, нарэшце, менавіта ў Крэве заключалася першая унія паміж Літвой і Польшчай?

ДУМАЕЦЦА, што пасля сказанага ўся гісторыя Вялікага княства Літоўскага асвятляецца новым святлом, незразумелае робіцца зразумелым.

Калі сцвярджаецца на падставе летапісных крыніц, што Міндоўг спачатку вылучыўся сярод літоўскіх князёў і падпарадкаваў іх сабе, то мы павінны разумець, што тут га-

ворка ідзе пра князёў украфінаў, да якіх сучасныя літоўцы не маюць ніякіх адносін.

Калі натыкаемся на сведчанне, што «літоўцы Ягайлу, які ведаў іх мову, больш ахвотна слухалі, чым каталіцкіх прапаведнікаў (Абецадарскі Л. «У святле неабвержаных фактаў»), дык мы павінны разумець, што тут гаворка ідзе не пра сучасную літоўскую (балцкую), а пра літоўска-пермскую мову.

Калі чытаем, што Гедымін тытулаваў сябе «вялікім князем літоўцаў і рускіх», то мы павінны разумець, што вялікім князем аўкштайтаў і жмудзі — продкаў сучасных літоўцаў — ён сябе не тытулаваў.

Такім чынам, выходзіць, што продкі сучасных літоўцаў аўкштайты і жмудзь выконвалі ў Вялікім княстве Літоўскім, названым па імю зусім іншага племя, падпарадкаваную ролю.

Пераважную большасць дзяржаўных пасад займалі літоўскія (галоўным чынам з вялікакняскай сям'і) і русінскія (беларускія) феадалы, а аўкштайты і жмудзь на іх практычна не дапускаліся.

Дзяржаўнай мовай у Вялікім княстве была старабеларуская, а балта-літоўская нават не мела пісьменнасці — аж, здаецца, да XVI стагоддзя.

Балцкія землі знаходзіліся ў Вялікім княстве ў становішчы каланіяльнай ускраіны, якая, можна сказаць, не мела права голасу. Свой лёс аўкштайты і асабліва жмудзь не прымалі без пярэчанняў. Вялікім князям даводзілася змагацца з аўкштайцкімі і жмудскімі феадаламі, душыць народныя паўстанні (1418—жмудзь, 1536—1537 —жмудзь, 1545 — усходняя Аўкштайтыя).

Ну, а якія былі адносіны паміж літвой і русінамі (беларусамі)? Літва была малалікім племем. Таму **заваяваць** Беларусь яна не магла. Калі б нават літве і ўдалося **заваяваць** нейкае асобнае княства, то праз пэўны час на дапамогу такому княству прыйшлі б іншыя і скінулі літоўскае панаванне, а магчыма, і знішчылі саму літву. Тым часам мы ведаем, што шэраг княстваў увайшоў у Вялікае княства **добраахвотна**, і гэта зафіксавана ў летапісах.

У чым тут справа? На пачатку XIII стагоддзя Беларусь, як і ўся Старажытная Русь, уяўляла сабой суму мала звязаных між сабой палітычна феадальных уладанняў. Так цягнулася б, мабыць, яшчэ доўга, але адразу дзве хмары з'явіліся на небасхіле нашых продкаў: з усходу і з захаду, з Галіцка-Валынскага княства — татары, з паўночнага захаду — немцы. Абставіны прымушалі аб'яднацца, але князі Рурыкавічы не маглі дамовіцца перад тварам небяспекі, як не дамовіліся і на тэрыторыі сучаснай Расіі, захопленай татара-манголамі. Патрэбна была нейкая нейтральная сіла, вакол якой можна было згуртавацца. Такой сілай і аказаліся літоўскія князі — магутныя воі, умелыя палкаводцы і неблагія дыпламаты. Першым з іх быў Міндоўг, які, дзякуючы сваім асабістым якасцям, быў запрошаны ў Навагрудак, дзе і абвясціў сябе каралём. Пасля гэтага з дапамогай Чорнай Русі яму было ямчэй падпарадкаваць сабе землі літвы. Стварылася ядро Вялікага княства, да якога з цягам часу далучыліся ўсе землі Беларусі. Такой уяўляецца схема першапачатковых падзей.

Такім чынам, можна правесці паралель паміж Міндоўгам і Рурыкам, які таксама, не будучы з усходніх славянаў, сеў на Кіеўскім стале і заснаваў дынастыю вялікіх князёў, што правіла ў Старажытнай Русі, а потым у Маскве да канца XVI стагоддзя. Як Рурык, так і Міндоўг быў князем запрошаным, пасаджаным. Седзячы на стале славянскай дзяржавы, літоўскія князі не маглі не славянізавацца, тым болей, што бралі жонак з Полацка, Цвеpы і г. д. Характэрна, што літоўскія князі нават і не спрабавалі ўводзіць літоўскую мову ў якасці дзяржаўнай, надаваць ёй пісьменнасць. Літоўска-пермская мова так і загінула бяспісьменнай, не пакінуўшы ніводнага помніка, хаця літоўская дынастыя правіла на Беларусі, а затым і ў Польшчы аж да XVI стагоддзя.

Але, у адрозненне ад Рурыкавічаў, літоўскія князі жылі ў атачэнні свайго нешматлікага этнаса, які растварыўся ў іншамоўным насельніцтве далёка не адразу. Мы ж ведаем, што Ягайла яшчэ гаварыў са сваімі воямі па-літоўску. Таму адчуць сябе русінамі-беларусамі на сто працэнтаў літоўскія князі не маглі. У іх сем'ях захоўваліся, мусіць, паганскія вераванні і звычаі, не ўсе яны нават былі хрышчонымі, пра што гавораць іх імёны.

Такім чынам, не ўсе літоўскія князі адчувалі этнічную еднасць з народам, які ўзначальвалі. У сувязі з гэтым бацькі дзяржавы нярэдка дамагаліся не нацыянальных, а дынастычных мэтаў. Характэрным для іх палітычнай дзейнасці робіцца кампраміс. З незвычайнай лёгкасцю асобныя з іх мяняюць веру, заключаюць палітычныя пагадненні. Такім «кампрамісчыкам», у прыватнасці, быў Ягайла, які за польскую карону заплаціў хрышчэннем у каталіцтва літвы. (Мабыць, хрышчоная ў каталіцтва літва і дала пераважную большасць беларусаў-каталікоў). Феадальны клас Польшчы ўмела скарыстоўваў схільнасць Гедымінавічаў да палітычнага і рэлігійнага кампрамісаў, цішком прыбіраючы «да рук» Вялікае княства. Але з'яўленне ў Польшчы дынастыі Ягелонаў ўрэшце прынесла ёй не толькі карысць, але і вялікую шкоду. Трымаючыся за польскі трон, Ягелоны рабілі адну за адной уступкі шляхце, што вяло да фактычнага раздраблення Польшчы і шляхецкай анархіі. І гэта ў той час, калі ў непасрэднай блізкасці ад «абодвух народаў» (Польшчы і Княства) мацаваліся магутныя абсалютысцкія манархіі — Расія і Прусія. Да чаго гэта прывяло — чытачу вядома.

Беларускаму народу літоўскія князі прынеслі і вялікі ўздым у XIV-XVI стагоддзях, і вялікі ўрон, калі з-за прапольскай арыентацыі апошніх з іх паланізуецца магнацтва, а потым і ўся беларуская шляхта. Зразумела, у паланізацыі гэтай былі і іншыя прычыны, але і ролю Гедымінавічаў-Ягелонаў нельга адмаўляць. І таму асабліва прывабнай здаецца фігура Вітаўта, пры якім Вялікае княства дасягнула найбольшай магутнасці, гаспадара-патрыёта, што ясна бачыў адрозненне сваёй дзяржавы як ад Польшчы, так і ад Масковіі, што, нягледзячы на асобныя няўдачы, так шмат зрабіў для тагачаснага ўзвышэння нашага краю.

Ну, а які быў лёс племя, што дало назву і князёў Вялікаму княству Літоўскаму?

Яно асімілявалася. Беларускім народам. На ўсёй сваёй тэрыторыі, уключаючы Вільню і Трокі. Тут і сёння жыве шмат беларусаў і «палякаў», што гавораць па-беларуску. Гэта — нашчадкі фіна-ўгорскай літвы, змешанай з беларускім насельніцтвам.

Калі знікла літва? Сказаць цяжка. Жыгімонт II нарадзіўся ў 1520 годзе, і яму дадзена літоўскае, нехрысціянскае імя. Але, можа, то была сямейная традыцыя? Прынамсі, у XVI ст., здаецца, назва «літва» пачынае пераходзіць на аўкштайтаў — продкаў сучасных літоўцаў.

Чаму? На гэта, думаецца, можна даць такі адказ.

Племя літва знікла, дзяржава ж па-ранейшаму называлася княствам **Літоўскім.** Мова літвы знікла, але захавалася згадка, што гэтая мова была рэзка непадобная як да беларускай, так і да польскай, украінскай мовы. І шукаючы ў Княстве народ, чым імем названа дзяржава, славянскія грамадзяне Княства — беларусы, палякі, украінцы — міжволі звярталі ўвагу на аўкштайтаў і жмудзь. Толькі тыя размаўлялі на незразумелай мове, толькі іх і можна было лічыць «літвой». Да таго ж, сталіца Княства стаяла зусім блізка да земляў аўкштайтаў. Так за аўкштайтамі і замацавалася назва «літва». А жмудзь аж да паўстання 1863 года сябе яшчэ называла жмуддзю.

Літва, літва... «Племя пяці родаў»... Як павінны мы ставіцца да літвы?

Як да сваіх продкаў.

Можа, і ў маіх жылах цячэ струменьчык фіна-ўгорскай крыві. Нездарма ж такая цікавасць да ўсходу: Тамерлан і Якуція, цяпер вось Комі.

Усіх гэтых Міндоўга, Гедыміна, Вітаўта мы павінны лічыць сваімі, як лічаць сваім балгары хана Аспаруха.

Цюркскае племя балгараў злілося са славянамі і, хоць само знікла, дало яму сваю назву, застаўшыся, такім чынам, у памяці нашчадкаў.

Літва, літва... Табе не было дадзена і гэтага.

Тваё імя маглі б насіць мы, беларусы. А называецца ім народ, які не мае да цябе адносін і нават не падазрае аб тваім колішнім існаванні.

Што ад цябе засталося, літва, апрача гучных дзеяў і гучных імёнаў?

Адказаць на гэта — цяпер справа нашага гонару.

Мы павінны вылучыць сляды аднаго з нашых продкаў — літвы — у нашай мове, геаграфічных назвах, звычаях, казках, песнях, загадках, прымаўках, легендах. Перад беларускімі даследчыкамі ўстае неадкладная задача па вывучэнні фіна-ўгорскіх, у першую чаргу пермскіх, моў, фальклору ўгра-фінскіх народаў, каб метадам параўнання знайсці тыя сляды. Гэтая задача вялікая і высакародная.

Сляды ёсць — маю на ўвазе не толькі тапаніміку: я не раз, здаецца, іх адзначаў, гартаючы комі-пярмяцкі слоўнік. Я ўжо казаў пра слова «дрыгва». Фіна-ўгорскім, мусіць, з'яўляецца і «багна»: «баг» па-комі-пярмяцку «плесень», «на» — варыянт «ва». «Этымалагічны слоўнік беларускай мовы» (т. 2, с. 265) піша: «Этымалогія (слова «багна») застаецца адкрытай». «Вежа» па-комі-пярмяцку «святы», «свяшчэнны». Фіна-ўгорскімі, падазраю, з'яўляюцца «твань», «жарства», «дойлід» («лыд» па-комі-пярмяцку — «лік», «лічба») Далейшыя пошукі — дай божа, не толькі мае — пакажуць, ці маю рацыю ў гэтым...

Быў — і знік народ, што ў пэўнай меры стаяў на чале вялізнай дзяржавы, даў дынастыю, што правіла, феадальныя вярхі. Чаму? Яго ж ніхто не вынішчаў, не прыгнятаў як этнас.

Ён знік таму, што адцураўся свае мовы.

Думаючы аб лёсе літвы, я не магу не думаць і аб лёсе беларускага народа.

Няўжо і мы адцураемся свае мовы, і год праз дзвесце забудзецца і яна, і ўсё тое, чым мы жылі стагоддзі, і назва наша пяройдзе на каго іншага, і не знойдзецца нават нейкага Ласкова, які, дзякуючы шчасліваму выпадку, адкрые, што беларусамі зваўся калісьці зусім не той народ, што сёння? (Маю на ўвазе не наша — будучае сёння). Няўжо так і праваліміся ў дрыгву стагоддзяў, няўжо зацягне нас багна забыцця?

г. Якуцк.

# ПОЛЬСКАЯ МОВА НА ГРОДЗЕНШЧЫНЕ

**Да апошняга часу беларускія палякі на Гродзеншчыне не мелі магчымасці вывучаць родную мову ў школе. У апошнія гады прадстаўнікі польскай меншасці ў Беларусі ўзнялі пытанне аб адраджэнні польскай мовы, развіцці культуры на яе выснове.**

**Сёння факультатыўна вывучаць польскую мову маюць магчымасць вучні 23 сярэдніх школ Гродзеншчыны, гурткі па вывучэнні польскай мовы дзейнічаюць у Доме піянераў і школьнікаў г. Ліды, Палаца піянераў і школьнікаў г. Гродна. У Ласоснаўскай СШ Гродзенскага раёна польская мова ўвайшла ў вучэбны расклад. Усяго ў 1988—1989 навучальным годзе яе вывучалі каля тысячы вучняў. З новага навучальнага года плануецца павялічыць колькасць гурткоў, а ў шэрагу школ увесці польскую мову ў расклад.**

**З'яўленне польскай мовы ў школах патрабавала настаўнікаў. Маючае адбыцца павелічэнне школ з вывучэннем новага прадмета стымулявала рашэнне аб адкрыцці ў 1989—90 навучальным годзе на філалагічным факультэце Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы польскага аддзялення для падрыхтоўкі настаўнікаў-філолагаў са спецыялізацыяй па польскай мове.**

**У справе адраджэння нацыянальнай мовы сярод палякаў Гродзеншчыны пэўную ролю мае культурна-асветнае таварыства імя А. Міцкевіча, утворанае пры абласным аддзяленні рэспубліканскага фонду культуры ў канцы 1988 г. Аддзяленні таварыства ўжо з'явіліся ў Лідзе, Навагрудку, Ваўкавыску, гурткі дзейнічаюць у іншых населеных пунктах вобласці. Адной з канкрэтных спраў польскага таварыства з'явілася адкрыццё ў маі гэтага года ў Гродне музея вядомай польскай пісьменніцы Зоф'і Налкоўскай.**

**Станоўчы рэзананс атрымала польская праграма Гродзенскага радыё, якая ўпершыню прагучала ў эфіры на пачатку года. Перадачы выходзяць раз на тыдзень па 35 хвілін.**

**Т. МІКУЛІЧ,**
**аспірантка-завочніца ІМЭФ АН БССР.**

г. Гродна.

# ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

**У маім лісце, што быў летась надрукаваны ў «ЛіМе» 22 красавіка, гаварылася пра сумную гісторыю вакол мемарыяльнай дошкі на старажытным будынку № 23, што на плошчы Свабоды ў Мінску, дзе некалі была адкрыта першая Мінская гімназія. Ад яе парога разышліся пуцявіны шмат якіх знакамітых людзей краю. Імёны некаторых з іх зараз пазначаны на зробленай з густам мемарыяльнай дошцы, якая ў рэшце рэшт з'явілася там, дзе яна павінна быць. Як кажуць, лепш позна, чым ніколі!**

**«Тут, — сказана на ёй, — у 1803 годзе была адкрыта Мінская гімназія, у якой у розныя часы вучыліся:**

**Тамаш Зан (1796—1855),**
**Яўстафій Тышкевіч (1814—1873),**
**Станіслаў Манюшка (1819—1872),**
**Уладзімір Спасовіч (1829—1906),**
**Бенядзікт Дыбоўскі (1833—1930),**
**Аляксандр Ельскі (1834—1916),**
**Антон Трусаў (1835—1886),**
**Іван Гольц-Мілер (1842—1871),**
**Янка Лучына (І. Неслухоўскі; 1851—1897),**
**Мікалай Мінскі (Віленскі; 1855—1937),**
**Эдуард Пякарскі (1858—1934),**
**Ядвігін Ш. (А. Лявіцкі; 1868—1922)**
**і іншыя вядомыя дзеячы літаратуры, мастацтва, навукі, вызваленчага руху супраць царызму».**

**Анатоль ВАРАВА.**

# ПАМЯЦІ Л. І. ГРАМЫКА

**Не стала Лідзіі Іванаўны Грамыка—чалавека рэдкай душэўнай шчодрасці і адкрытасці, жонкі, сябра і паплечніка вядомага беларускага пісьменніка і геолага Міхайлы Грамыкі. Толькі некалькі месяцаў не дажыла яна да свайго 92-годдзя. Жыццё ж у Л. Грамыкі было яркае, хоць і не пазбаўленае драматычных момантаў. Асабліва тады, калі муж быў высланы за межы рэспублікі. Адарванасць ад Беларусі падзяляла з ім і Лідзія Іванаўна, смуткуючы па родным куце.**

**Сама яна, праўда, нарадзілася ў Адэсе, куды яе бацькі ў пошуках заробку выехалі з мястэчка Ярэмічы, што на Навагрудчыне. Але яшчэ ў маленстве палюбіла беларускую прыроду, якая назаўсёды для яе стала сваёй. У аўтабіяграфіі, напісанай па маёй просьбе ў ліпені 1977 года і якая захоўваецца ў мяне, Лідзія Іванаўна піша, што дзяўчынкай часта бывала на Навагрудчыне, пешкі хадзіла ў Турэц, Мір, Карэлічы, любіла падарожнічаць на лодцы па рэках. Згадкі ад гэтых сустрэч з зямлёй бацькоў падказалі пазней М. Грамыку некаторыя матывы яго паэмы «Лесавічанка».**

**З Міхайлам Аляксандравічам Лідзія Іванаўна пазнаёмілася вясной 1919 года, калі працавала ў Адэскім беларускім клубе. Туды часта наведваўся і выкладчык жаночых гімназій М. Грамыка. Маладыя людзі, адарваныя ад бацькаўшчыны і аднолькава ўлюбёныя ва ўсё беларускае, адразу знайшлі агульную мову.**

**Сустрэчы прадоўжыліся на роднай зямлі, калі летам 1921 года Лідзія Іванаўна пераехала ў Беларусь, пачала весці выхаваўчую работу сярод дзетдомаўцаў. Да гэтай справы далучыўся і М. Грамыка, які на той час працаваў у Інбелкульце. На ранішнікі, сустрэчы ахвотна прыходзілі Янка Купала, Якуб Колас, Змітрок Бядуля і іншыя пісьменнікі.**

**У кастрычніку 1922 года Лідзія Іванаўна і Міхайла Аляксандравіч пажаніліся. Жыццё падаравала ім знаёмства з Адамам Багдановічам і Антонам Грыневічам, Альбертам Паўловічам і Цішкам Гартным. Сярод іх Лідзія Іванаўна адчувала сябе нароўні, бо валодала рэдкім дарам чуласці, сардэчнасці, да ўсяго—цікавілася літаратурай, нацыянальнай культурай.**

**Кантакты з беларускімі пісьменнікамі былі прадоўжаны, калі сям'я Грамыкаў пасялілася ў Хімках пад Масквой. Многія літаратары, наведваючыся ў сталіцу, не забываліся зазірнуць у іх гасцінны дом. З радасцю прыгадвала Лідзія Іванаўна адведкі Данутьі Бічэль-Загнетавай, Янкі Брыля, Ніла Гілевіча, Міколы Аўрамчыка. Бываў там неаднойчы і я.**

**Заўсёды з задавальненнем знаёмілася Лідзія Іванаўна з навінкамі беларускай літаратуры, адчуваючы кожны раз нанава далучанай сябе да жыцця Беларусі.**

**Шмат рупілася яна, каб творчая спадчына М. Грамыкі дайшла да чытача. Дапамагала і мне ў складанні аднатомніка Міхайлы Аляксандравіча «Родная пушча»—і добрым словам-парадай, і пошукам неабходных матэрыялаў.**

**...Яшчэ адна магіла чалавека, улюбёнага ў Беларусь, за межамі рэспублікі. Яшчэ адно жыццё адышло ў вечнасць.**

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ.**

**Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Міколу Ермаловічу з прычыны напаткаўшага яго гора—смерці жонкі.**

**Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Віктару Супрунчуку з прычыны напаткаўшага яго гора—смерці сястры.**

**Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Алесю Кучару з прычыны напаткаўшага яго гора—смерці сястры.**

*Музам на пацеху*

**Уладзімір ТРЫШЧУК**

# МЭР ПЕРАБУДОЎВАЕЦЦА

НЯДАЎНА я зайшоў у магазін і сваім вачам не паверыў: перада мной за мяснымі прадуктамі стаяў у чарзе... сам мэр горада. Безумоўна, гэты факт не застаўся незаўважаным. Я тут жа яго абнародаваў. Па чарзе лёгкім ветрыкам пранеслася: «Мэр нашага горада ў чарзе за прадуктамі. Мэр у чарзе. Мэр...» Усе пакупнікі, як па камандзе, павярнулі галовы назад, каб падзівіцца на незвычайнага пакупніка, які прыстасаваўся ў самым хвасце даўжэзнай чаргі. Данеслася гэта вестка і да загадчыцы магазіна Зіначкі Сцяпанаўны, як яе з павагай называлі тыя, каму яна шчыра адпускала прадукты з чорнага ходу. Зіначка, калі пачула гэтую навіну, з непакоем кінула погляд на каляндар: якое ж сёння чысло? Дваццатае! Але ж, яе папярэдзілі свае людзі, праверка запланавана на дваццаць шостае. Загадчыца магазіна тут жа апынулася, каля прадаўшчыцы Іначкі і на вуха ёй прашаптала: «Абслугоўваць кожнага пакупніка на вышэйшым узроўні і поўным сервісам!» А потым, схапіўшы сумкі, пабегла і сабе заняць чаргу, каб атаварыцца нароўні з усімі.

У наступны дзень я ехаў у перапоўненым аўтобусе на работу. Людзей у салоне —як у летні сезон у Ялце. Я не мог болей цярпець чыйсьці востры локаць, які ўпёрся мне кінжалам у жывот, і паспрабаваў далікатна напомніць пасажырцы: «Грамадзянка, мая спіна не прыстасавана для таго, каб трымаць на сабе чатырох пасажыраў, і...» Але замест гэтага ў мяне вырвалася: «Мэр нашага горада ў аўтобусе! Мэр...»

— Так? — вытрашчылася суседка.

— А вось паглядзіце.

У тую ж мінуту па салоне пранеслася: «Мэр горада едзе ў аўтобусе!» «Мэр у аўтобусе...» Калі гэтая інфармацыя дакацілася да вадзіцеля, ён адразу сцішыў ход і пачаў старанна абмінаць кожную ямку на шляху, каб не трэсла пасажыраў. А якісь грамадзянін як *закрычыць: «Таварышы*, давайце спытаем прадстаўніка *улады*: «Чаму на гэтым маршруце курсіруе толькі адзін аўтобус?..»

Вечарам, калі я вяртаўся з работы, на маршруце панаваў *узорны* парадак. Сам начальнік аўтобуснага парка асабіста кантраляваў лінію.

Аднойчы, кажуць, бачылі мэра ў аддаленай ад цэнтра горада сталоўцы. І еў ён юшку з фрыкадэлькамі, бліны на маргарыне, а пярлоўку запіваў чаем. У кінатэатры мэр стаяў у чарзе ля касы, каб трапіць на фестывальныя фільмы. А на базары таргаваўся, купляючы раннюю бульбу. А нядаўна я яго сустрэў у лазні. Калі я шапнуў у раздзявальні, што наведаўся з візітам сам мэр, учыніўся страшэнны перапалох. Нікому нават і не прысніласся, што сам мэр наведаў звычайную гарадскую лазню. Абслуга адразу пачала мыць падлогу, рамантаваць краны, выкідваць праз вокны дзіравыя тазікі. Замест парваных прасцін і ручнікоў адразу з'явіўся стосік новенькай бялізны з этыкеткамі. Старшы лазеншчык стаў разносіць кліентам бярозавыя венікі. На стале ў яго нават запараваў самавар, і ў ноздры ўдарыў пах індыйскага чаю...

Тымі днямі па ўсім горадзе былі расклеены аб'явы: «Грамадзяне! Заўтра ў 20.00 запрашаем вас у Палац культуры на сустрэчу з кіраўнікамі горада».

*Зала не магла* ўмясціць усіх жадаючых. Многія сталі ў праходах, калідоры і пад вокнамі.

— Таварышы! — падняўся на трыбуну намеснік старшыні гарвыканкома Сцяпан Сцяпанавіч Маклюда. — Перш за ўсё хачу вас праінфармаваць: па горадзе ходзяць усялякія чуткі, версіі, домыслы наконт асобы старшыні гарвыканкома Івана Пятровіча Серадняка. Скажу адразу: усе гэтыя домыслы беспадстаўныя! Мы разбяромся, што да чаго. А пакуль можна толькі меркаваць, што чалавек, якога называюць мэрам, — яго двайнік. Сам жа таварыш Сераднякк у даны момант знаходзіцца ў замежным круізе...

Пераклаў з украінскай
У. ШКАБРОЎ.

## З ФРАНЦУЗСКАГА ГУМАРУ

●

— Мадам, можа, вы здымеце ваш капялюш? Я заплаціў за білет дзесяць франкаў і хачу ўсё бачыць.

— А я заплаціла за свой капялюш 20 франкаў і хачу, каб яго ўсе бачылі.

●

Адзін чужаземец падарожнічаў па Францыі. У адным з паўднёвых гатэляў ён прачытаў: «Тут размаўляюць на ўсіх мовах».

Чужаземец запытаў *гаспадара па-англійску*: «*У вас* ёсць свабодны нумар?».

Гаспадар не зразумеў пытання і нічога не адказаў.

Чужаземец запытаў па-нямецку: «Магу я спыніцца ў вашым гатэлі на два дні?»

І зноў гаспадар нічога не адказаў.

Тады чужаземец запытаўся па-французску: «Хто ж тут размаўляе на ўсіх мовах?»

Гаспадар спакойна адказаў: «Падарожнікі».

●

Настаўнік:—Што ты можаш сказаць пра вядомых вучоных 18 стагоддзя?

Вучань:—Яны ўсе памерлі.

●

Парыжанку ледзь не збіў аўтамабіль. Дама звярнулася ў паліцыю.

— Вы не звярнулі ўвагі на нумар машыны?—запытаў дзяжурны паліцэйскі.

— Не, але магу паведаміць наступныя падрабязнасці: за рулём сядзела непрыгожая жанчына ў белым капелюшы з ружовай вуаллю, у цёмна-блакітным касцюме «джэрсі» і ў скураных пальчатках.

●

Нядаўна я сустрэў на вуліцы знаёмага, які імчаўся са скрынкай у руках. Я з цяжкасцю спыніў яго і запытаўся, куды ён спяшаецца.

— Ды вось купіў жонцы капялюш і хачу паспець дадому раней, чым памяняецца мода.

Пераклала з французскай
Вера САВІНА.

**Мікола ТАТУР**

### Моваед

Пад выглядам уніфікацыі
Гатоў глынуць ён мову
нацыі.

### Пра аднаго крытыка

Са скуры пнецца крытык
апантаны—
Ён вучыць, як пісаць
раманы,
А сам у творчай кухні—
ані звання,—
Не здольны разжаваць
апавядання.

**Пятрок ШЭРКА**

### Паэт-прымак

— Што маўчыш апошнім
часам,
*Дзе падзеў свой дзіўны*
дар?
— Не даюць, браток,
Пегаса—
Цешча ездзіць на базар.

●

Слыве мудрэйшым,
Амаль праракам
Паэт тутэйшы
З японскім хоку.

**Захар БІРАЛА**

### Даведка

Калі жніво, усім вядома,
Ніхто сядзець не будзе дома.
Зося ж гэтаю парою
Спіць салодка пад вярбою.

Загудзелі роем восы,
Лезуць ёй у твар, у косы.
Раптам Зося закрычала —
У нос аса ўваткнула джала.

— Ай-я-яй, ратуйце,—
плача,
Без музыкі польку скача.

Да ўрача прыбегла Зося:
— У мяне скула на носе!
Напішыце мне даведку...
Пашкадуйце вы кабетку.

Доктар даў адказ кароткі:
— Зараз зробім... Вось вам,
цётка!

Зося, радая без меры —
За паперку ды за дзверы.

І такой вясёлай стала,
Нават песню заспявала.
Тоўсты нос задрала ўгору
Ды пабегла ў кантору.

Як паперку прачыталі—
Ледзь ад смеху ўсе
не ўпалі—
Гэта ж быў рэцэпт дый
толькі,
Мазь прапісана ад болькі.




Мал. Н. ДОРАШ.




Мал. А. ГУРСКАГА.




з 21 па 27 жніўня

22 жніўня, 21.45

**«СПАДЧЫНА»**

Мастацка - публіцыстычная праграма знаёміць з гісторыяй старадаўняга Пінска, аднаго са значных гарадоў тураўскай зямлі. Пра яго месца ў гісторыі беларускай зямлі раскажуць доктар гістарычных навук П. Лысенка і пісьменніца В. Іпатава.

25 жніўня, 20.05

**«НА ПРЫНЕМАНСКІХ ПРАСТОРАХ»**

Літаратурна-мастацкі часопіс.

25 жніўня, 23.25

**«ВЯЧЭРНІ КАНЦЭРТ»**

Англійскія песні эпохі Рэнесанса ў выкананні ансамбля «Бахаўскі гурток».

26 жніўня, 11.50

**«МЕТРАНОМ»**

С. Пракоф'еў. «Заручыны ў манастыры». Спектакль Ленінградскага акадмэічнага тэатра оперы і балета імя К?рава.

Вядучая — музычны каментатар Э. Язерская.

26 жніўня, 14.35

**«У ЖЫВАПІСЕ, ГРАФІЦЫ, СКУЛЬПТУРЫ»**

У чарговым выпуску —знаёмства з мастакамі віцебскага аб'яднання «Квадрат».

Вядучы—У. Сцепаненка.

26 жніўня, 16.55

**«МАЛАДОСЦЬ МАЯ НЕЗАБЫЎНАЯ»**

Успамінае А. Васілевіч.

26 жніўня, 19.45

**«ЗАЛА ЛАЎРЭАТАЎ»**

Скрыпач В. Бадзьяраў.

Прагучаць творы Верачыні, Шасона, Равеля.

27 жніўня, 10.15

**III УСЕСАЮЗНЫ ФЕСТЫВАЛЬ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ**

«Мы пачынаем наш канцэрт». Выступленне народнага хору ветэранаў вайны і працы Палаца культуры Белсаўпрофа.

27 жніўня, 15.15

**ПРЭМ'ЕРА ПЕСНІ**

У. Заяц, А. Сыс. «Мроя». Выконвае С. Кравец.

27 жніўня, 17.00

**«СВЯТА, ЯКОЕ ЗАЎСЁДЫ З НАМІ»**

Праграма да Дня савецкага кіно. У перадачы прымае ўдзел народны артыст СССР І. Смактуноўскі.

27 жніўня, 19.20

**«ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ»**

Вершы народнага паэта БССР П. Панчанкі чытае артыст В. Анісенка.

27 жніўня, 19.25

**«ЗАЎТРА ПАЧЫНАЕЦЦА СЁННЯ»**

Чатыры дыялогі з народным артыстам БССР М. Казінцом.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

АТ 07659
Індэкс 63856

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў і грамадскай думкі — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.